18 лістапада 2016 | № 44 (509)

# Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

Любімы дэтэктыў немцаў

Стар. 11


ISSN 2218-2144

**4 ЧЫРВОНЫЯ ДНІ КАЛЕНДАРА**

Беларусь — краіна парадоксаў. Дзе яшчэ напаміны пра вычарпанне ліміту рэвалюцый спалучаюцца з помнікамі галоўнаму рэвалюцыянеру ХХ стагоддзя?




**6 РЭФЕРЭНДУМ–1996: ТРЫУМФ І ТРАГЕДЫЯ ВІКТАРА ГАНЧАРА**

Віктар Ганчар настолькі актыўны выступаў ля парламенцкага мікрафона, што дэпутат Васіль Чэпік аднойчы прапанаваў назваць гэты самы мікрафон імем Ганчара

**7–10**



**ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**

**15 БЕЛАРУСКАЯ ЖАННА Д'АРК — ЛІЦВІНКА ЭМІЛІЯ ПЛЯТЭР**

Яна імкнулася далучыцца да барацьбы. Але як жанчыну яе ігнаравалі, не дапускалі да ўдзелу. Таму Эмілія абстрыгла свае доўгія валасы і загадала пашыць сабе мужчынскае адзенне

# Дзесяць гадоў — як і не было

## Каб стаць героямі фільма «Назад у будучыню», беларусам дастаткова паслухаць кіраўніка дзяржавы



Сяргей ПУЛЬША

«Рыхтуйцеся набраць сярэдні заробак у 500 долараў у наступным годзе», — сказаў Лукашэнка, наведваючы Магілёўскую вобласць.

Гэтая сакральная лічба — 500 долараў заробку — узнікае ва ўяўленні кіраўніка дзяржавы ўжо не раз. Упершыню задачу росту дабрабыту насельніцтва да гэтай сумы Аляксандр Рыгоравіч паставіў у далёкім 2005 годзе — напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006-га. Тады абяцалася, што гэта будзе зроблена цягам пяцігодкі.

У 2008-м кіраўнік краіны казаў, што заробку «ў 500» мы дасягнулі, і тады ж загадаў набліжацца да тысячадоларавай аплаты працы. Але насамрэч народ мог пабачыць у разліковых блізкі да 500 паказчык толькі напярэдадні выбараў 2010 года. У той час усе эканамісты казалі, што перад прэзідэнцкімі выбарамі ідзе напампоўка эканомікі «пустымі» грашыма, і гэта абавязкова адгукнецца ў будучыні.

Будучыня не прымусіла сябе чакаць. У 2011-м краіна ўлящела ў валютны крызіс, бо на «пяцісотдоларавыя» заробкі насельніцтва скупляла СКВ. У выніку долары скончыліся, забяспечыўшы нам вяртанне «валютчыкаў», некалькі абменных курсаў, «чорны» валютны рынак, інфляцыю ў 109% за год і ўвекавечванне старшыні Нацбанку ў знакамітым сайце prokopovi.ch.

Выкараскацца з крызісу–2011 нам дапамаглі толькі крэдыты ЕўрАзЭС. З наступствамі 2011 года мы змагаемся дагэтуль, бо той крэдыт, разлічаны на 10 гадоў, мы зараз аддаём. У 2015-м, здавалася, кіраўнік краіны і ўрад нарэшце зразумелі: трэба жыць па сродках. Але гэтае жыццё па сродках выліваецца ў незадаволенасць насельніцтва, якое хутка прывыкла да добрага. І таму зноў з'явілася мантра «ўсім па 500».

Канешне, сказаўшы пра аб'ём заробкаў, Лукашэнка зазначыў, што ён не павінен быць «незаробленым». «Я не кажу, што павінны плаціць не зароблены грошы. Ні ў якім разе. Інакш мы вернемся да таго, з чаго пачыналі два гады таму. Мы павінны стымуляваць, падштурхоўваць кіраўнікоў прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў да таго, каб мы да 500 долараў наблізіліся. Трэба людзей падтрымліваць, чаго б гэта ні каштавала», — сказаў Лукашэнка, але ў той жа час, як піша дзяржаўнае агенцтва БелТА, «паставіў задачу больш актыўна працаваць са стратнымі прадпрыемствамі, асабліва з тымі, якім пагражае банкрутства».

«Ніхто не дазволіць прадпрыемствы зачыняць або бяздумна прадаваць. Трэба ад гэтага адысці раз і назаўсёды і ў сельскай гаспадарцы, і ў прамысловасці... Прадпрыемствы трэба ратаваць, каб людзі працавалі. Таму накіроўвайце туды каго хочаце (гэта ваша справа) і кіруйце, пакуль яно не выйдзе на нармальны ўзровень работы», — цытуе вышэйназванае агенцтва кіраўніка дзяржавы.

«Падштурхоўваць кіраўнікоў», «накіроўвайце, каго хочаце», «кіруйце» — гэтыя словы азначаюць, што Лукашэнка па-ранейшаму мяркуе, што эканоміку можна прымусіць працаваць загадамі і гвалтам. Але зламаны станок на стратным і збанкрутаваным прадпрыемстве не запрацуе, калькі ты яму ні загадвай. На абсталяванні мінулага стагоддзя не атрымаеш прадукцыю, вартую стагоддзя сённяшняга. Сістэма загадаў папросту не спрацуе, чаму мы і сталі сведкамі за 10 гадоў. Інакш бы мы ні ставілі зараз перад сабою мэты, якія намагаліся дасягнуць 10 гадоў таму.

Адмыслоўцы кажуць, што вырашыць «праблему 500» за раз можна двума шляхамі. Першы — значна скараціць колькасць працоўных. Тады ў нас узровень беспрацоўя будзе адпавядаць рэальнаму стану эканомікі, але тыя, хто застанецца на працы, атрымае заробак у 500 долараў у эквіваленце, як кажа, напрыклад, эканаміст Сяргей Чалы. Але супраць банкрутстваў і скарачэнняў ужо адразу выказаўся Аляксандр Рыгоравіч.

Ёсць і звыклы шлях атрымаць 500 — уключыць друкарскі станок. Праўда, гэта ідзе насуперак усім рэкамендацыям МВФ і Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця, у якіх мы просім крэдыты, але нам не ўпершыню падманваць крэдытораў. Тады, у выпадку паўтору крызісу 2011-га, больш у нас не будзе ніякіх выратавальных інструментаў, грошай нам ніхто не дасць. А тое, што паўтор 2011-га, у выпадку напампоўвання эканомікі пустымі грашыма, адбудзецца — да варажбіткі хадзіць не трэба.

Ёсць яшчэ і трэці варыянт: словы Лукашэнкі пра заробак у 500 долараў (як і іншыя) — чыстай вады папулізм, і выконваць гэтую мэту не збіраецца ні ён сам, ні яго падначаленыя.

А пра «ўсім па 500» кіраўнік краіны сказаў проста так, бо больш сказаць было няма чаго. Тады ўсё застанецца, як ёсць, і 500 долараў мы пабачым хіба што ў паперах Белстата, які нейкім вельмі дзіўным чынам вылічвае сярэднія заробкі па краіне.

Але насамрэч сённяшняе «ўсім па 500» азначае, што апошнія дзесяць гадоў краіна папросту страціла. У той час, як свет ішоў наперад, мы нічога не дасягнулі, нічога не рэалізавалі, і толькі незваротна змарнавалі час, застаўшыся на тым жа месцы, дзе і былі 10 гадоў таму, збыўшыся на знакамітае выслоўе: «Time is money» («Час — гэта грошы»).

Ёсць такі культавы амерыканскі фільм — «Назад у будучыню». Але беларусам для гэтага не трэба вынаходзіць машыну часу. Дастаткова проста жыць у краіне.





# Краіна ў судах

Сяргей ПУЛЬША

**На гэтым тыдні ледзь не ўся Беларусь апынулася ўцягнутая ў судовыя працэсы рознай ступені цяжкасці.**

Не спыняецца пераслед удзельнікаў масавых акцый рознага кшталту і гатунку. Суды Мінска пачалі разгляд спраў за акцыі салідарнасці з блогерам Эдурадам Пальчысам. Суддзя Першамайскага раёна Мінска Дзмітрый Цыкал пакараў актывіста Леаніда Кулакова штрафам у памеры 40 базавых велічыняў. Суд Маскоўскага раёна сталіцы ў дачыненні да Віктара Кулака за акцыі салідарнасці з блогерам разглядае адразу тры пратаколы.

Падчас працэсу над Пальчысам акцыі каля суда праводзілі дзясяткі грамадскіх дзеячаў, палітыкаў і актывістаў. Па словах сустаршыні БХД Паўла Севярынца, усяго за гэты час супрацоўнікамі міліцыі было складзена каля 70 пратаколаў адміністрацыйных правапарушэнняў за несанкцыянаваныя сходы.

Аналагічныя пратаколы разглядаюцца судамі за паміnanне ахвяр сталінскіх рэпрэсій 29 кастрычніка ля будынку КДБ. Пяць базавых штрафу прысудзілі жонцы Мікалая Статкевіча Марыне Адамовіч. Цікава, што пра позву самому Статкевічу, які таксама быў на той акцыі, пакуль не чуваць.

За спробу сарваць адкрыццё помніка Леніну ля Трактарнага завода Зміцер Дашкевіч атрымаў штраф у 50 базавых велічыняў (1050 рублёў). Суддзя прызнала Дашкевіча вінаватым у паўторным на працягу года ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і непадпарадкаванні патрабаванням міліцыі.

Крымінальны працэс пачаўся над Уладзімірам Кондрусем — фігурантам ужо амаль забытай справы па «Плошчы–2010». Яго вінавацяць паводле артыкула 293 КК «Масавыя беспарадкі». У судзе Маскоўскага раёна Мінска Кондрусь на знак пратэсту лёг на падлогу і адмовіўся стасавацца з судом. А пасля і ўвогуле зрабіў спробу ўскрыць сабе вены.

Нагадаем, праваабарончая супольнасць Беларусі прызнала Кондруся палітвязнем і патрабуе спынення яго пераследу і неадкладнага вызвалення з-пад варты.

18 лістапада пачнецца суд над «самым беларускім мытнікам», краязнаўцам і завадатарам культурнага жыцця на Астравеччыне Алесем Юркойцем. Юркойць — вядомы краязнаўца Астравеччыны, арганізатар культурных мерапрыемстваў і курсаў «Мова-Нанова». Жыў з сям'ёй у вёсцы Варнянаў. Выпускнік геафака БДУ, працаваў у школе, потым уладкаваўся на мытню.

Ён быў затрыманы аж паўтара гады таму ў складзе змены ашмянскіх мытнікаў. З таго часу знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскага ў Мінску. Працэс будзе ісці ў судзе Партызанскага раёна Мінска. Варта зазначыць, што кіраўнік Юркойця — начальнік Ашмянскай мытні Іван Нівяркевіч, — быў асуджаны да 7 гадоў зняволення яшчэ ў студзені 2016 года.

# Зноў аштрафавалі актывістаў

**Актывісты Уладзімір Гундар і Юры Казакевіч 13 кастрычніка збіралі ў Баранавічах подпісы за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці.**

У міліцыі палічылі, што такімі дзеяннямі яны парушылі парадак правядзення і арганізацыі масавых мерапрыемстваў, бо для правядзення пікета яны павінны былі падаць заяўку ў гарвыканкам і атрымаць адказ. Але актывісты гэтага не зрабілі.

«Мы не лічым, што збор подпісаў — гэта пікет. Бо многія мабільныя аператары, рэкламныя кампаніі праводзяць падобныя акцыі, і іх за гэта не судзяць», — сказаў Юрый Казакевіч.

«Гэта не быў пікет! Супрацьзаконнага мы нічога не зрабілі, а наадварот, падтрымлівалі нашу сімволіку — бел-чырвона-белы сцяг, — сказаў на судзе Уладзімір Гундар. — Пакажыце закон, дзе напісана, як трэба праводзіць збор подпісаў».

Але суд прызнаў актывістаў вінаватымі і аштрафаваў на 25 базавых велічынь кожнага.

Абодва актывісты абскарджыць пастанову суда не плануюць.

**Паводле intex-press.by**

# Ператварыце таблеткі ў кветкі

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Клуб «Крыніца валанцёраў» разам з грамадскім аб'яднаннем «Фіальта» правёў у Мінску майстар-клас для тых, хто хоча дапамагаць хворым дзецям у лякарнях.**



Фота «Fanny nose»

На сустрэчу валанцёраў былі запрошаныя ўсе жадаючыя: тыя, хто ўжо займаецца такой дапамогай, і тыя, хто хацеў бы далучыцца да гэтай справы.

Амаль кожны з нас з дзяцінства ведае, што такое лякарня: шпітальная бялізна, шпітальны пах і бясконцыя горкія пігулкі, якія прымушаюць прымаць па некалькі разоў на дзень. Але кожную горкую таблетку можна размаляваць у «кветку».

Валанцёры намагаліся арганізаваць майстар-класы, якія з лёгкасцю можа выкарыстоўваць звычайны чалавек — гэта і веды па псіхалогіі, і фокусы, і гульні, і твістынг (калі са звычайных балонікаў робяць цацкі і жывёл).

Адкрыў сустрэчу валанцёраў выступ па псіхалогіі дырэктара сацыяльнага цэнтра «Шчаслівы малыш» Ірыны Шмак.

Сярод удзельнікаў былі вядомыя бальнічныя клоуны «Fanny nose», што паказалі гульні, якія можна выкарыстоўваць у працы з дзецьмі.

Кіраўнік праекта садзейнічання рэабілітацыі «Ацаляльная магія» Віталь Паўлаградскі паказаў самыя простыя фокусы, для якіх не трэба асаблівых талентаў і дарагога інвентару. Прадэманстраваныя валанцёрам фокусы змогуць не толькі забаўляць малых, але яшчэ і распрацоўваць маторыку рук. А аквагрымёры, якія прыйшлі са сваімі фарбамі і блёсткамі, паказалі, як за дзве хвіліны звычайная дзяўчынка можа пераўтварыцца ў прынцэсу, а хлопчык — у чалавека-павука.

«Крыніца валанцёраў» — унікальная для Беларусі аб'яднанне, якое дапамагае добраахвотнікам розных накірункаў атрымліваць новыя веды па сваёй працы, каардынуе дзейнасць разнастайных арганізацый, прапануючае ўсім жадаючым накірункі і валанцёрскія каманды, да якіх з лёгкасцю можна далучацца. Падобныя сустрэчы клуб праводзіць, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да актуальных тэмаў валанцёрскага жыцця і для яднання розных супольнасцяў і арганізацыяў у сяброўскай атмасферы адукацыі і супрацы.

Далучыцца да валанцёрскага клуба «Крыніца валанцёраў» можна праз сацыяльныя сеткі па тэгу krynicavalanciorau альбо праз пошту krynicavalanciorau@gmail.com.

Наступная сустрэча клуба будзе прысвечаная тэме «Цяжкія падлеткі».

# Адышоў у лепшы свет Генадзь Шэршань

**Лекар, журналіст, мастак, шчыры, светлы і далікатны чалавек. Ён ніколі не жаліўся і ніколі не турбаваў. Так нечакана і так цяжка…**



Кожны раз, заходзячы ў рэдакцыю, Генадзь Аляксандравіч прыносіў печыва, каб пачаставаць нас усіх, каб разам папіць гарбату, каб паразмаўляць. Час ад часу ён тэлефанаваў, каб абмеркаваць які-небудзь артыкул, што з'явіўся ў газеце, ці каб прапанаваць свой. Час ад часу мы друкавалі яго тэксты.

«У красавіку споўнілася 114 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага хірурга Івана Стальмашонка. Дата не круглая. Можна было б і пачакаць год з гэтым тэкстам. Але не ўпэўнены, што дажыву», — пісаў Генадзь Аляксандравіч напісаў у артыкуле пра свайго настаўніка.

Не дажыў…

Мы размаўлялі з ім некалькі тыдняў таму, абмяркоўвалі чарговую тэму. Ён хацеў напісаць пра тое, што ў дзяржаўнай прэсе мала ўвагі надаецца здароваму ладу жыцця. А я прапаноўвала яму напісаць пра каго-небудзь з яго паплечнікаў-лекараў. Ён паабяцаў напісаць. Не паспеў…

Прабачце, спадар Генадзь, што між штодзённымі справамі я не знайшла часу да Вас завітаць, хоць не раз абяцала… Прабачце, што так рэдка Вам тэлефанавала, хоць гэта так лёгка — набраць нумар і запытацца, як справы… Прабачце, што пра вашу смерць мы даведаліся амаль выпадкова ад аднаго з чытачоў…

Прабачце і вялікі дзякуй, што былі з намі!

Светлая памяць…

**Аксана Колб, рэдакцыя «Новага Часу»**

# Выбаршчыкі патрабуюць справаздачу

Зінаіда ЦІМОШАК

**Як паведаміла актывістка кампаніі «Наш дом» Тамара Блінова, 14 лістапада 119 слуцкіх выбаршчыкаў накіравалі калектыўны зварот на імя мясцовага дэпутата абласнога Савета дэпутатаў Мікалая Прудніка з просьбай даць справаздачу.**

Мікалай Пруднік, які адначасова з'яўляецца дырэктарам Слуцкага цукрарафінаднага камбіната, стаў дэпутатам Мінскага абласнога Савета дэпутатаў па Слуцкай выбарчай акрузе №52 23 сакавіка 2014 года.

— Для актывізацыі працы мясцовых дэпутатаў грамадзянская кампанія «Наш дом» зараз праводзіць кампанію «Народны дэпутат», — гаворыць Тамара Блінова. — У адпаведнасці з артыкулам 21 Закона РБ «Аб статусе дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў», адной з форм дзейнасці дэпутатаў з'яўляюцца справаздачы дэпутатаў перад выбаршчыкамі.

Згодна з тым жа законам, дэпутат Пруднік павінен быў са студзеня па лістапад 2016 года даць не менш за 1 справаздачу перад выбаршчыкамі. Тамара Блінова паведаміла, што збіраць подпісы пад патрабаваннем справаздачы было даволі няпроста з-за элементарнага страху страціць працу.

— Многія людзі, якія жывуць на тэрыторыі Слуцкай выбарчай акругі №52, пабаяліся ставіць свае подпісы. Баяцца ўгнявіць свайго кіраўніка. Таксама большая частка выбаршчыкаў не верыць у тое, што дэпутаты могуць у чымсьці дапамагчы і вырашыць праблему. Замест гэтага наўпрост звяртаюцца ў органы выканаўчай улады. Але ёсць і такія грамадзяне, якія б хацелі вырашыць пытанні, звязаныя з добраўпарадкаваннем тэрыторыі пражывання, праезнай часткі, аўтамабільных паркоўак. Менавіта яны і падпісалі калектыўны зварот і былі б рады сустрэцца з дэпутатам хаця б раз за некалькі гадоў, — патлумачыла адна з ініцыятыўных грамадзянак.

Для прыцягнення ўвагі грамадзян да дзейнасці дэпутатаў розных узроўняў 16 лістапада некалькі слуцкіх актывістаў кампаніі «Наш дом» зладзілі перформанс каля ўваходу ў гарадскі парк. Жанчына ў капелюшы і з кейсам у руках, апранутая пад «дэпутата», прапаноўвала «паслухаць справаздачу дэпутата».

— Мы ім не верым — гэтым прызначаным дэпутатам, — падзялілася думкамі адна з маладых жанчын, якая праходзіла праз парк. — Але калі ім мала сваёй начальніцкай пасады, і яны для павышэння сваёй вагі пайшлі ў дэпутаты — хай даюць справаздачы. Хоць і папяровыя.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Эканоміка шыхтавацца не хоча!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усе раптам кінуліся падводзіць вынікі сваёй працы. Хаця звычайна гэта робіцца тыдні за два-тры да Новага года. Бачна, Новы год сёлета наступіць раней, чым звычайна.**

З папярэдніх вынікаў бачна, што эканоміка — хоць ты забіся! — не жадае выконваць загады. На пасяджэнні Саўміна 15 лістапада прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў паведаміў, што з сямі найважнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця выконваюцца толькі два. Асабліва яго непакоіла, што ніяк не атрымліваецца знізіць сабекошт прадукцыі.

Нагадаем, у лютым гэтага года кіраўнік краіны падпісаў указ № 78 «Аб захадах па павышэнні эфектыўнасці сацыяльна-эканамічнага комплексу Рэспублікі Беларусь». У ім было загадана вытворцам знізіць сабекошт выпускаемай прадукцыі не менш чым на 25%. «У нас што, няма магчымасці сабекошт скараціць на 25%? Вы ж паглядзіце: мы ў дзесяць разоў адстаём ад Заходняй Еўропы, маючы лепшыя цэны на сыравіну і энерганосьбіты. Канкрэтная лічба: зніжэнне сабекошту на 25%. І гэтую лічбу паніжэння не атрымаецца нікому намаляваць. Ці пойдзеце пад суд, калі паспрабуеце гэта зрабіць!» — у звыклай для сабе манеры каментаваў прыняцце дакументу Лукашэнка.

Па выніках дзевяці месяцаў 2016 года сабекошт рэалізаванай прадукцыі вырас на 10,5%.

Ніяк не хоча расці ВУП. Ён за тры дэкады знізіўся на 2,8%. Па-ранейшаму асноўны ўплыў на агульны вынік аказвае секцыя будаўніцтва — мінус 1,3%. Мінус 0,8% дае гандаль. Па валавым рэгіянальным прадукце за дзевяць месяцаў ні адзін з рэгіёнаў не дасягнуў узроўню мінулага года.

Таксама Кабякоў звярнуў увагу на павелічэнне колькасці стратных арганізацый — у параўнанні з кастрычнікам мінулага года больш на 13%. Закрануў прэм'ер і пытанні са стварэннем новых працоўных месцаў. «Задачу, вызначаную ўказам №78 аб штогадовым стварэнні не менш за 50 тысяч новых працоўных месцаў, выконваем. За дзевяць месяцаў ужо створана 54,2 тысячы працоўных месцаў, у тым ліку 29,2 тысячы на зноў створаных прадпрыемствах. Але пры гэтым колькасць занятых у эканоміцы знізілася на 60 тысяч чалавек», — адзначыў ён.

Няма ніякага «ўстойлівага развіцця». Калі нешта недзе ў нас палепшылася, у іншым сектары — абавязкова прасела. Прычым, прасядае там, дзе мы спрабуем кіраваць эканомікай адміністрацыйнымі сродкамі. Адкуль у нас возьмецца зніжэнне сабекошту прадукцыі, калі прадпрыемствы састарэлі маральна і фізічна? Каб іх узнавіць, патрэбны інвестар. Інвестар без прыватызацыі не прыйдзе. На прыватызацыю не пагаджаецца вышэйшае кіраўніцтва.

Узгадваецца показка, як пасадзілі ў 1937-м сантэхніка за фразу: «Тут усё прагніла, трэба ўсю сістэму мяняць». Сістэму мяняць ніхто не збіраецца. Вось і боўтаемся ў нявырашаных і невырашальных праблемах.

Дадаў суму і міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Леанід Заяц. Па яго словах, у Беларусі на 1 верасня 2016 года 348 сельгаспрадпрыемстваў, або 24% ад усёй колькасці, былі стратнымі. Аднак тут ёсць два моманты. Па-першае, па яго ж інфармацыі, у Беларусі 323 сельгасарганізацыі з доляй дзяржуласнасці падлягаюць дасудоваму аздараўленню, а 102 — банкрутству. А гэта ўжо не 348 «стратных», а 425. Па-другое, Заяц звыкла лічыць, што прыватызацыя і продаж гаспадарак ім не дапамогуць. «Нам неабходна захаваць гэтыя сельгаспрадпрыемствы, захаваць працоўны калектыў, падняць іх на больш высокі ўзровень развіцця, змяніць уласніка і надаць яму новы імпульс», — лічыць кіраўнік ведамства.

Зноў жа пытанне: які «новы ўласнік» пагодзіцца з тым, каб яму «надавалі новы імпульс»? А калі мяняць уласніка толькі для таго, каб кіраваць ім надалей, то навошта змена ўласніка?

**ВУП Беларусі за тры дэкады знізіўся на**

**2,8%**

**Па валавым рэгіянальным прадукце за дзевяць месяцаў ні адзін з рэгіёнаў не дасягнуў узроўню мінулага года**

І пра мадэрнізацыю. У перапрацоўчай прамысловасці, па словах Зайца, стратныя пяць з 40 малакаперапрацоўчых прадпрыемстваў і 10 з 23 — мясаперапрацоўчых. Цікава, навошта тады будаваць нейкія новыя свінагадоўчыя комплексы, супраць якіх пратэстуюць жыхары, напрыклад, Маладзечна? Каб стварыць яшчэ адно стратнае прадпрыемства?

Не дзіва, што агульная сітуацыя адбіваецца і на буйным бізнесе. «Трывожны званочак» атрымала краіна з Міністэрства па падатках і зборах. «Чорны спіс» гэтага ведамства папоўнілі некалькі кампаній, у якіх праблем раней не было. У іх ліку апынуліся дзве кампаніі вядомага бізнесоўца Аляксея Ваганава («Лада ОМС Энерга» і «Лада ОМС-Інжэнірынг»), занятыя ў рэалізацыі некалькіх знакавых праектаў у жылой і гасцінічнай нерухомасці, адзін з лідараў рынку па вытворчасці сухіх будаўнічых сумесяў «Сармат Кіруючая Кампанія». У спісе досыць шмат бізнесаў з сектараў гандлю і паслуг. Сярод іх кампаніі «Зіка», «Далідовіч», «Белатра», «Дылерторг». У мінскай падатковай засталіся пытанні да Мінскага заводу безалкагольных напояў, «Акватрайпла» Юрыя Чыжа і «Белвінгруп». Таксама сярод неплацельшчыкаў апынуўся футбольны клуб «Крумкачы».

Фактычна гэта азначае, што ніякі бізнес у сённяшняй Беларусі не ёсць пасяховым. Буйны ён ці маленькі, гандлюе ён ці стварае, абслугоўвае альбо перапрадае — у заняпадзе апынуліся ўсе. А што з гэтым рабіць — ва ўрадзе не ведаюць. Дакладней, ведаюць, што «сістэму трэба мяняць», але нікому не хочацца паўтараць лёс сантэхніка з 1937-га.

І без таго краіна апынулася ў сумным спісе. Паводле дадзеных даследавання амерыканскага некамерцыйнага цэнтра «Prison Policy Initiative», Беларусь заняла 12 месца ў свеце па колькасці зняволеных у турмах: у нашай краіне на 100 тысяч жыхароў прыпадаюць 306 арыштантаў. Усяго ў даследаванні былі ахоплены каля 200 краін.

Першае месца ў спісе займаюць ЗША — 693 зняволеных на 100 тысяч насельніцтва. Другое — Туркменістан (583 арыштанта), пасля яго ідуць Сальвадор (517), Куба (510) і Тайланд (472). Апошняе месца ў рэйтынгу дасталася Цэнтральнаафрыканскай Рэспубліцы, дзе на 100 тысяч жыхароў прыпадаюць усяго 16 вязняў.

Сярод краін былога СССР Беларусь заняла трэцюю пазіцыю, пасля Туркменістана і Расіі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Марына Адамовіч

**Жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча асуджаная за тое, што «трымала свечку». І гэта не жарт.**

Суд Маскоўскага раёна Мінска 16 лістапада разглядаў адміністрацыйную справу Марыны Адамовіч за ўдзел у масавым мерапрыемстве паводле ч.1 арт. 23.34 КаАП. У пратаколе правапарушэння, складзеным на Адамовіч, супрацоўнік міліцыі Уладзімір Мацюшка непасрэдна так і пазначыў: «29 кастрычніка 2016 года Адамовіч М. каля будынку КДБ у Мінску прыняла ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве — пікетаванні, без дазволу Мінгарвыканкама, якое выявілася ў публічнай дэманстрацыі запаленай свечкі, чым парушыла парадак правядзення масавых мерапрыемстваў».

Нагадаем, увечары 29 кастрычніка ў Мінску каля будынку КДБ на праспекце Незалежнасці адбылася акцыя памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Актывісты паставілі на прыступках ля галоўнага ўваходу ў будынак КДБ каля двух дзясяткаў лампад з запаленымі свечкамі і трымалі ў руках партрэты рэпрэсаваных. У акцыі ўдзельнічалі таксама Мікалай Статкевіч з жонкай Марынай Адамовіч. Супрацоўнікі міліцыі склалі на ўдзельнікаў жалобнай акцыі больш за дзясятак пратаколаў.



## Ганна Канапацкая

**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў ад АГП на сваёй старонцы ў Фэйсбуку апублікавала разліковы лісток за кастрычнік са сваім парламенцкім заробкам.**

Першая сесія новага склікання парламента адбылася 11 кастрычніка. Агулам у мінулым месяцы дэпутаты адпрацавалі 12 дзён. За гэтыя 12 дзён Канапацкай налічылі 1217 рублёў 10 капеек. Аклад у Канапацкай выйшаў 524 рублі, штомесячная прэмія — 214 рублёў, надбаўка за клас дзяржслужбоўцы — 191, надбаўка за выслугу гадоў — 286 рублёў. Усе лічбы — з капейкамі, якіх набегла на «лішнія» 2 рублі. З адлічэннем падаткаў Канапацкая атрымала 1058 рублёў 67 капеек.

«Самыя высокааплатныя дэпутаты ў свеце працуюць у Аўстраліі. Іх штомесячны даход складае 15400 еўра. У Еўропе больш за ўсіх зарабляюць італьянскія парламентары (14580 еўра). Мае ўкраінскія калегі — крыху больш за 2000 еўра, расійскія з наступнага года — 5600 еўра. Самыя «бедныя» дэпутаты краін ЕС працуюць у Балгарыі (1300 еўра). Як вы лічыце, якую заработную плату павінны мець дэпутаты заканадаўчага органа нашай краіны? Якія аптымальныя суадносіны павінны быць з сярэднім заробкам?» — пытаецца ў насельніцтва Канапацкая.

Але народ узрушыўся не з-за заробку дэпутаткі, а з-за надбаўкі да акладу. «За два тыдні працы — штомесячная прэмія?», «Надбаўка за выслугу гадоў пасля месяцу працы?», «Які яшчэ клас дзяржслужбоўцы?» — задаюцца пытаннямі інтэрнэт-карыстальнікі.



## Лідзія Ярмошына

**Кіраўніца Цэнтрвыбаркама ў чарговы раз знайшла прычыну, каб не выконваць рэкамендацыі АБСЕ па паляпшэнні і лібералізацыі выбарчага заканадаўства.**

У размове з журналістамі яна сказала, што «не магу дакладна адказаць» пра змены ў Выбарчы кодэкс. «І не таму, што зменаў не трэба чакаць. Хутчэй за ўсё, яны будуць, бо ў Цэнтральнай камісіі ёсць свае ўласныя планы, ёсць абавязальніцтвы перад АБСЕ. Але калі вы ўважліва слухалі словы Лукашэнкі, то нядаўна ён казаў пра магчымасць карэкціроўкі Канстытуцыі. І калі гэта сапраўды ёсць у планах кіраўніка дзяржавы, то ніхто не будзе мяняць выбарчае заканадаўства раней карэкціроўкі Асноўнага закону», — зазначыла Ярмошына.

Зразумела, Канстытуцыя Беларусі патрабуе карэкціроўкі. Хаця б таму, што ў Асноўным законе дагэтуль прапісаны Вышэйшы гаспадарчы суд, якога ў краіне няма ўжо тры гады. І для змен у Канстытуцыю сапраўды патрэбны рэферэндум. Аднак адкладаць рэформу выбарчага заканадаўства ў чаканні гэтага рэферэндуму, якога, можа, яшчэ гадоў дзесяць не будзе — гэта вышэйшы пілатаж пускання пылу ў вочы.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чырвоныя дні календара

**Масавая вера ва ўтопію — абавязковая ўмова рэвалюцыйнай сітуацыі.**

**Беларусь — краіна ідэалагічных парадоксаў. Дзе яшчэ ў наш час пастаянныя напаміны пра вычарпанне ліміту рэвалюцый так гарманічна спалучаюцца з помнікамі галоўнаму рэвалюцыянеру-практыку ХХ стагоддзя?**




Штогод адзіны палітык (АП) віншуе беларусаў з Днём Кастрычніцкай рэвалюцыі. Слова «вялікая», звыклае для слыху савецкага чалавека, выпала з назвы свята, але дзень у календары па-ранейшаму «чырвоны». А гэта галоўнае. Важная не нагода — важны выходны.

Дзень незалежнасці ў Беларусі прымеркаваны да Дня вызвалення горада Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў (3 ліпеня), а не да дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР (27 ліпеня). Здавалася б, ініцыятарам пераносу даты галоўнага дзяржаўнага свята лагічней было б абраць 1 студзеня. У гэты дзень у 1919 годзе была абвешчана БССР. Але ў бюракратыі адсутнічае адназначны погляд на рэвалюцыю. Яе спадчына, у адрозненне ад спадчыны «нашай Перамогі», не ўпісваецца ў афіцыйную версію гераічнай гісторыі.

Між тым, набліжаецца круглая дата — 100-годдзе «бальшавіцкага перавароту», «кастрычніцкага паўстання», «Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі» (ідэалагічна блізкае падкрэсліць). У Расіі падрыхтоўка да юбілею ўжо ідзе. У прыватнасці, Савет бяспекі заклікаў абараніць ад фальсіфікацый Кастрычніцкую рэвалюцыю. Ён рэкамендаваў «праводзіць узгодненую інфармацыйную палітыку, ствараць, развіваць і ўкараняць механізмы выяўлення ў СМІ і інтэрнэце прыкмет інфармацыйных кампаній, скіраваных на скажэнне гісторыі», а таксама «прыцягваць да сумесных мерапрыемстваў дзяржаў-чальцоў Арганізацыі Дамовы аб калектыўнай бяспецы». Без АДКБ тут не абысціся, такім чынам, і без нас.

## Не падзея, а працэс

«Там, дзе да мінулага датыкаецца ўлада, — тлумачыць філосаф Аляксандр Рубцоў, — гісторыю больш не вывучаюць, ёю кіруюць як абмежаваным рэсурсам — прадметам яшчэ адной дзяржаўнай манаполіі». Але, як ужо пазначана вышэй, у бюракратыі адсутнічае адназначны погляд на рэвалюцыю. Адсюль праблема з фармаваннем манаполіі.

У сваіх штогадовых віншаваннях з нагоды Дня Кастрычніцкай рэвалюцыі АП пералічвае стандартны набор рэвалюцыйных дасягненняў: даступныя сацыяльныя выгоды, ідэалы раўнапраўя, міру, міжнацыянальнай згоды, магутны рывок у развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі і г.д.

Але 1917 год — гэта адначасова і год крушэння аўтарытарнага царскага рэжыму. Ладзіць дыскусіі на тэму страты ўстойлівасці адзінаўладдзя ў крызісных сітуацыях раўназначна згадкам пра вяроўку ў доме павешанага.

Для працаўнікаў афіцыйных ацэнак рэвалюцыя — гэта разрыў гістарычнай пераемнасці, гэта хаос, які спарадзіў бальшавіцкую дыктатуру. Такім чынам, кожны ўкладае свой уласны сэнс у рэвалюцыю. Барацьбу сэнсаў мы і назіраем, але пачалася яна не сёння і не ўчора — і скончыцца не заўтра. Вялікае бачыцца на адлегласці, і новыя пакаленні будуць па-новаму асэнсоўваць знакавыя гістарычныя падзеі.

Прадстаўнікі майго пакалення (60 ± 5) сустрэліся 2–3 лістапада ў Таліне на канферэнцыі «Рубікон–2016», пралогам якой паслужыла дыскусія «100 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ці трэба нам чакаць новую рэвалюцыю ў 2017?»

На жаль, размовы на ўзроўні азбукавых паліталагічных ісцін не атрымалася. Усё звялося да жыццёвых уяўленняў пра рэвалюцыю як пра гістарычны момант, пра падзею, падчас якой даведзены да адчаю народ зрынуў ненавіснага тырана і яго кліку *(«Бежит матрос, бежит солдат, стреляют на ходу»)*.

Між тым, рэвалюцыя — гэта не падзея, гэта працэс. Тут напрошваецца паралель з лавінай у гарах. Для яе сыходу патрэбныя секунды, а падставай для пачатку руху снегу можа паслужыць гучны крык. Але нагоду не варта блытаць з прычынай, а дакладней, з цэлым «букетам» прычын.

У дачыненні да рэвалюцыі марксісты звычайна кажуць пра «аб'ектыўныя фактары», самы вядомы з якіх — няздольнасць вярхоў кіраваць па-старому. Пригледзімся да яго больш уважліва.

## Нарада як праблема

20 верасня АП даручыў намесніку прэм'ер-міністра Міхаілу Русаму і міністру сельскай гаспадаркі і харчавання Леаніду Зайцу «да лістапада падрыхтаваць пашыраную нараду, на якой плануецца дэталёва разгледзець сітуацыю ў сельскай гаспадарцы і эфект ад мер, што робяцца дзеля падтрымання дадзенай сферы».

На момант падрыхтоўкі артыкула (8 лістапада) нарада праведзена не была. Падобная невыканаўчасць з боку топ-чыноўнікаў даўно стала нормай у Беларусі. Чытачам, якія сумняваюцца ў такой катэгарычнасці высновы, нагадаю, што яшчэ ў снежні 2013 года на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях будаўнічай галіны АП прыняў рашэнне «як мінімум раз на паўгода збірацца ў такім складзе, каб на сістэмнай аснове даваць сігналы ўсяму грамадству пра праблемы, якія ўзнікаюць, і шляхі іх вырашэння».

На думку АП, першачарговага разгляду патрабавалі праблемы ЖКГ і аграпрамысловага комплексу. Праца закіпела. Былі створаны рабочыя групы пад кіраўніцтвам старшыні Камітэта дзяржкантролю Аляксандра Якабсона і прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча.

Але абяцаным сігналам дайсці да беларускага грамадства не было наканавана. «У такім складзе» чыноўнікі больш ні разу не збраліся. Прычына мне не вядомая. Мяркую, узніклі праблемы з арэндай залы ў Палацы Незалежнасці.

Вынікі працы камісіі па ЖКГ адгукнуліся беларусам у студзені 2016 года двухзначных ростам тарыфаў. АП, калі даведаўся пра гэта бязладдзе, натуральна, абурыўся. 22 лютага ён даручыў надзець «кайданкі на тых, хто не выканаў даведзеныя па майму загаду тарыфы». Самае пацешнае ў гэтай гісторыі — тое, што абавязак выканаць ролю багіні адплаты Немезіды быў ускладзены на... старшыню Камітэта дзяржкантролю. Вось толькі прозвішча галоўнага кантралёра краіны пачыналася да таго моманту не на апошнюю, а на першую літару алфавіту — Анфімаў.

Нездольнасць вярхоў кіраваць па-старому ў перакладзе на сучасную беларускую мову азначае фарміраванне арганізацыйнага кампанента рэвалюцыйнага крызісу. Прыклады сыплюцца як з рога багацця. Але калі яшчэ некалькі гадоў таму так званая «моцная дзяржава» распрацоўвала планы эканамічных мерапрыемстваў і спрабавала іх выконваць (як правіла, беспаспяхова), дык сёння праблемы пачынаюцца ўжо на арганізацыйнай стадыі.

Здавалася б, што можа быць працай для бюракратычнай сістэмы, чым правядзенне нарадаў? Запланаваў — правёў. Прыняў выніковы дакумент, а далей хоць трава не расці. Але вось з нейкага моманту нават правядзенне нарадаў ператварылася ў праблему. У якасці каментара працытую гісторыка Уладзіміра Булдакова: «Ва ўсіх архаічных сістэм — адзін канец: улада альбо закісае ад бязволля «самадзержцаў», альбо дранцвее ад тупасці бюракратыі».

## Марыць не шкодна

Прызнаючы вядучую ролю ўнутраных фактараў у фарміраванні рэвалюцыйнай сітуацыі, нельга забываць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя і Перабудова сталіся адначасова рэакцыяй традыцыяналісцкай большасці на выклікі глабалізацыі. У першым выпадку гаворка ідзе пра сталыпінскія рэформы, якія выштурхоўвалі абшчыннага селяніна ў рынкавую стыхію. У другім — пра заходняе спажывецкае багацце, своеасаблівы аналаг дабрабыту пры камунізме, які Хрушчоў паабяцаў на XXII з'ездзе КПСС.

Прарабы перабудовы лавілі «чалавека савецкага» на магчымасць дасягнення заходняга ўзроўню дабрабыту і багацця. Змучаны стаяннем у чэргах па дэфіцыт, такі чалавек лёгка пачынаў адчуваць сябе прыхільнікам рынку і парламентарызму.

«Гісторыя — гэта не настаўніца, а наглядчыца, — тлумачыў у адной са сваіх лекцый гісторык Васіль Ключэўскі. — Яна нічому не вучыць, але сурова карае за няведанне ўрокаў». Дэфіцыту тавараў беларуская мадэль дала рады, але з кожным днём усё горш спраўляецца з дэфіцытам грошай. 2014 год краіна скончыла з нулявым ростам даходаў насельніцтва, у 2015 годзе афіцыйная статыстыка зафіксавала 6%, у 2016-м будзе 7%.

Новы трэнд, аднак. З яго няма выйсця ў рамках беларускай мадэлі. Гэтую горкую праўду прыхільнікам АП яшчэ толькі трэба будзе ўсвядоміць. Веды памнажаюць смутак, і не выключана, што той, хто пачынае адчуваць сябе нікім, зноў захоча стаць усім, але не за кошт уласных намаганняў, а ў чарговы раз — за кошт наіўнай веры ў замежжа, якое «нам дапаможа».

Аднак гэта далёка не адзіны дэфект беларускай мадэлі. Яе своеасаблівасць здольная толькі змікшыраваць сацыяльнае расслаенне, але не ліквідаваць яго цалкам. У «тлустыя» гады, калі эканамічны рост «уздымаў усе лодкі», дыферэнцыяцыя даходаў не спараджала масавага незадаволенасці, аднак сёння тэма роўнасці і справядлівасці пачынае ўсё часцей нагадваць пра сябе.

А лепшыя ўзоры «дзяржавы для народа» сёння дэманструе Захад. Як тут ні прыгадаць шведскую мадэль ды памарыць пра магчымасць пераносу яе на родную глебу. Але адзін з нявывучаных урокаў гісторыі заключаецца ў тым, што ўсялякая рэвалюцыя — гэта спалучэнне ўтопіі і традыцыі на грэбні чалавечых надзей і роспачы.

# Маланка б’е двойчы

Таццяна ШАПУЦЬКА,
Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Чыноўнікі заяўляюць, што людзі не супраць разбурэння іх дамоў, але самі жыхары пасёлка даведаліся пра верагоднасць зносу ўжо пасля заканчэння грамадскіх слуханняў.**



## Паўночны пасёлак зноў пагражаюць знесці

У Мінску наспявае новы будаўнічы скандал — жыхарам Паўночнага пасёлка, прыватнага сектара ў Заводскім раёне сталіцы, паведамілі, што паводле новага будаўнічага плана іх дамы ідуць пад знос, а на вызваленай тэрыторыі размесцяць шматпавярхоўкі. Гісторыя, падаецца, банальная — колькі ўжо разоў у Мінску сутыкаліся жыхары прыватнай забудовы і гарадскія ўлады, якія ўвесь час спрабуюць тую забудову ўшчыльніць.

Паўночны пасёлак ужо збіраліся знесці ў 2011 годзе, аднак пад ціскам жыхароў, якія і подпісы збіралі, і мітынгавалі, ад гэтай ідэі адмовіліся. Пяць гадоў людзі спакойна дабудоўвалі дамы, бралі крэдыты на рэканструкцыю, як нечакана даведаліся, што на месцы іх жытла плануюць збудаваць шматпавярхоўкі. Больш за тое: і грамадскія слуханні па гэтым пытанні нібыта ўжо прайшлі, і быццам жыхары раёна супраць набудаў не выступілі.

### Ці было абмеркаванне?

Жыхарка Паўночнага пасёлка Таццяна адна з першых дазналася, што яе дома, паводле новага горадабудаўнічага праекта, быць не павінна:

— Даведалася практычна выпадкова. Усе шакаваныя… У 2013 годзе многія пачалі рэканструкцыю дамоў, гэта ж якія грошы патрачаныя! Нехта прадаў кватэру ў Мінску і тут адбудаваў дом, а цяпер пад знос? Суседняя шматдзетная сям’я ўзяла крэдыт на жытло, а цяпер яны застануцца без дома і з крэдытам? Каналізацыя, водаправод, газ — усе камунікацыі праклалі за свае сродкі, а цяпер чыноўнікі кажуць: «У вас добрае месца, каля метро, трэба ўшчыльняць». Ды гэта наша малая Радзіма зрэшты, колькі сілаў у гэтыя дамы ўклалі нашы дзяды і бацькі, яны ўсё рабілі з нуля і без дапамогі ўладаў. Бабулькі во плачуць — маўляў, хочам памерці ў сваёй роднай хаце…

Асабліва жыхароў Паўночнага пасёлка ўсхвалявала, што грамадскія слуханні, на якіх яны маглі выказацца, правялі без іх ведама. Таццяна кажа, што ў паштовыя скрыні ім ніхто не кідаў абвестак, на вуліцах аб’яваў таксама не вывешвалі.

— Пра гэтыя абмеркаванні мы даведаліся праз два тыдні пасля іх заканчэння. Мы хадзілі па суседзях, збіралі подпісы да адміністрацыі, пыталіся: «А вы былі на грамадскіх абмеркаваннях»? І на нас во такія вочы… Многія казалі — напэўна, вы падманваеце. Пакуль мы не паказвалі схему, дзе ўжо знесеныя нашы дамы, і на іх месцы стаяць шматпавярхоўкі і паркоўкі. Па выніках грамадскіх абмеркаванняў павінна стварацца працоўная група, куды мы маглі б скіраваць прадстаўнікоў Паўночнага пасёлка, але нашто ім гэта? Яны (адміністрацыя. — аўт.) адмыслова нас не збіралі, хацелі, каб усё ціха прайшло, разумелі, што мы будзем пратэставаць.

Паводле праекта, дамы мусяць знесці пад 2030 год, але мясцовыя жыхары вырашылі не чакаць, пакуль будаўнікі пяройдуць ад папяровых праектаў да дзеянняў, і пачалі контратаку: за два дні сабралі каля 150 подпісаў (збор подпісаў працягваецца) пад зваротам да адміністрацыі Заводскага раёна з патрабаваннем правесці новыя грамадскія слуханні і выключыць знос дамоў. Таксама жыхары Паўночнага ўжо патрапілі на прыём да старшыні адміністрацыі Заводскага раёна Аляксандра Дараховіча. Наша суразмоўца Таццяна засталася расчараванай гэтай сустрэчай:

— Нічога па сутнасці Дараховіч нам сказаць не змог — маўляў, я не ў курсе, давайце паперы, разбяруся і вам пасля дамо адказ. Кажуць — на слуханнях усе былі «за», «супраць» — нікога. Просім: пакажыце пратакол, імёны тых, хто ўвайшоў у працоўную групу. Ніякіх дакументаў паказаць не змаглі.

Дарэчы, мы думалі, гэта ўсё ідзе з «Мінскграда», з нейкіх вышэйшых інстанцый, а апынулася (нам у нефармальнай размове распавялі прадстаўнікі «Мінскграда»), што ініцыятарам забудовы была сама адміністрацыя Заводскага раёна. Гэта было асаблівым шокам — яны ж жывуць тут, фактычна гаспадары раёна, і такое ўчыніць сваім жыхарам! Цікава, што на сустрэчы нас папрасілі ў іншыя інстанцыі не пісаць — маўляў, і самі разбярэмся. Але я папярэдзіла, што пісаць будзем, мы ўжо адвезлі заявы з копіямі подпісаў у Мінгарвыканкам, Мінскі гарадскі савет дэпутатаў, у Камітэт дзяржкантролю.

### Калі дэпутат — не дэпутат

Пасля размовы ў адміністрацыі Заводскага раёна жыхары Паўночнага пасёлка вырашылі звярнуцца па дапамогу да свайго мясцовага дэпутата. Але замест яго на сустрэчу з жыхарамі прыйшоў памочнік — маўляў, сам дэпутат у адпачынку.

Сустрэча адбылася 10 лістапада ў СШ №172, і школьны клас быў запоўнены бітком. Памочнік дэпутата Мінскага гарсавета Ігара Русакевіча Ігар Кузьмін адразу разагрэў аўдыторыю:

— Я адразу хачу вас папярэдзіць, каб не было ілюзій з вашага боку наконт дэпутата. Дэпутат гарсавета — гэта нават не дэпутат Нацсходу. Вы самі разумееце, ён працуе на грамадскіх пачатках.

— Але вас выбіралі мы, правільна? — заўважыла адна з ініцыятарак сустрэчы Таццяна. — І вы павінны адстойваць нашы інтарэсы.

— Я ведаю цудоўна і праблемы каналізацыі, і праблемы зносу, і ўсяго астатняга, — адказаў памочнік дэпутата. — Ваш зварот будзе вывучаны, будзе зроблены запыт. Але я вам хачу сказаць, што я не ўпэўнены ў тым, што нам прыйдзе не такі ж адказ, як і вам. І для таго, каб вы не мелі проста ілюзій, я кажу так, як яно ёсць.

Жыхары пачалі закідваць памочніка пытаннямі пра грамадскія слуханні. Адзін з мужчынаў зноў патрабаваў паказаць доказы, што гэты сход праводзіўся.

— Гэта было ў 172-й школе, гэта было тут, — казаў Кузьмін. — Быў намеснік кіраўніка адміністрацыі па будаўніцтву, намеснік па ідэалогіі і г.д. Адміністрацыя раёна абавязана апавяшчаць людзей праз СМІ і іншымі шляхамі — гэта так. А робіць яны гэта ці не — мы гэта не правяраем.

Адна з жанчын прапанавала прагледзець запісы відэакамер, якія ўсталяваныя ў школе, і высветліць, ці былі грамадскія слуханні і хто на іх прысутнічаў. Памочнік дэпутата зазначыў, што ў яго няма права запытваць відэазапісы.

«Гэта не можаце, тое не можаце. Што вы можаце? Навошта вас выбіралі? Гаварыльняй толькі займаецеся», — не вытрымаў адзін з мужчын.

Ігар Кузьмін паабяцаў абараняць правы жыхароў Паўночнага пасёлку і запэўніў, што дэпутат звернецца «і ў Заводскі выканкам, і ў Мінгарвыканкам, і ў горадабудаўнічыя арганізацыі». Але жыхароў гэта не задаволіла, бо яны ўжо туды самі звярнуліся. «Нам патрэбны змагар, які будзе адстойваць нашы правы. Вось тады вы будзеце на сваім месцы. А калі вы хочаце моўчкі, то, даруйце, не займайце чужога месца. А сядзець моўчкі — «добра, я прыму, добра, я перадам, я атрымаю адказ і вам паведамлю»! Ён нам перадасць адказы! Гэта як пасярэднік. Нам трэба, каб вы змагаліся. І не моўчкі, а з кулакамі», — казалі людзі на сходзе.

Размова працягвалася каля паўгадзіны. І скончылася, як і пачыналася, — на высокіх тонах. Падчас яе, дарэчы, жыхары даведаліся, што дэпутат Русакевіч і яго памочнік, як сказаў апошні, «ужо другі тэрмін на пасёлку».

Пасля сустрэчы жыхары выказаліся журналісту «НЧ»:

— Гэта жахліва. Адна балбатня. Ён нічога канкрэтнага не сказаў, — сказаў Генадзь Балабановіч. — Навошта тады гэта ўлада патрэбна, калі не адстойвае інтарэсы народа? Для чаго мы іх абіраем? Каб яны адстойвалі нашы інтарэсы, вырашалі справы ў нашых інтарэсах. А не ў справах кагосьці аднаго ці двух. Яны баяцца слова сказаць. Гэты будзе маўчаць і нічога не скажа.

Жыхары нагадваюць, што ваду і камунікацыю яны праводзілі за свае грошы. Як і ўклалі сродкі ў будаўніцтва дамоў: «Нашы бацькі лес карчавалі, іх ніхто не хваляваў. Ніякіх пазыкаў, усё на сваім пупе. І зараз зносіць? А чаму? Няхай Дразды знясуць!»

Галоўны архітэктар паведаміла жыхарам, што будзе «кропкавае выхопліванне прыватнага сектара». І гэта ўжо робіцца — улады адшчыпваюць тэрыторыі ад прыватнага сектару і будуюць шматпавярхоўкі. Па словах жыхароў, гэта робіцца, каб не было масавых пратэстаў.

Актывістка Паўночнага пасёлка Таццяна падсумавала:

— Я думала, чалавек скажа: «Так, я пайду за вас, я буду адстойваць ваш пункт гледжання». А тут… Мы яго проста вымусілі сказаць пра тое, што ён будзе адстойваць нашы правы. А мы будзем збіраць подпісы па ўсім раёне. Пісаць далей. Мы ў пракуратуру горада напішам. Мы будзем вырашаць гэта пытанне вышэй, калі нас не могуць пачуць. Гэта нашы дамы, гэта наша жыццё. Канешне, мы будзем змагацца!

### «У нас жа не нейкія халупы»

Калі Паўночны ўдасца адстаяць, жыхары маюць намер дамагацца, каб пасёлак прызналі катэджнай забудовай — тады пагроза зносу павінна знікнуць наогул.

— У нас жа не нейкія халупы, а дабротныя дамы, усё дагледжана, каля кожнага плота кветкі, людзі самі сабе робяць прыгажосць. Увесь час гаворыцца — Мінск не гумовы, трэба заканчваць будаваць шматпавярхоўкі. Такіх зялёных пасёлкаў павінна быць як мага больш, асабліва ў такім загружаным заводамі раёне, а нас усё спрабуюць загнаць у бетонныя каробкі, — кажа Таццяна.

— Гэта проста жахліва, — кажа яшчэ адзін жыхар, Арцём. — Я ўклаў такія сумы — збіраў 10 гадоў. Я нідзе не адпачываў, я нікога не бачыў. Я з Беларусі не выязджаў. Наогул адмаўляю сябе ва ўсім. Таксама зараз у пазыках. Плачу падаткі ўсюды, працую на знос на дзвюх працах, каб пабудаваць гэты дом. У мяне пайшло 700 мільёнаў старымі грашыма. І тут прыйдуць з бульдозерам і знясуць?! То зараз я наогул не ведаю, што мне рабіць!

З жыхарамі пасёлка 16 лістапада сустрэліся прадстаўнікі адміністрацыі Заводскага раёна. На пытанні грамадзян спрабавалі адказаць начальнік Упраўлення архітэктуры і будаўніцтва Заводскага раёна Віталь Гамяльцоў ды яго намесніца, начальнік аддзела архітэктуры і горадабудаўніцтва Заводскага раёна Марына Піваварчык, намеснік кіраўніка адміністрацыі раёна Аляксандр Сцяпанаў і нават дэпутат Палаты прадстаўнікоў па 92-й выбарчай акрузе Валеры Курсевіч. Але, як і прадбачылі жыхары, вынікаў гэта сустрэча не мела. Таму жыхары будуць падаваць скаргі ў пракуратуру, Камітэт дзяржкантролю і Адміністрацыю прэзідэнта.

# Рэферэндум–1996: трыумф і трагедыя Віктара Ганчара

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Дваццаць гадоў таму, 14 лістапада 1996 года, Лукашэнка падпісаў указ №469 «Аб старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў». Ён стаў ракавым не толькі для Віктара Ганчара, але і для цэлай краіны.**



**Віктар Ганчар і Тамара Віннікава хаця былі па розныя бакі барыкад, але яўна імпанавалі адзін аднаму знешне**

У вялікую палітыку Віктар Ганчар прыйшоў дзякуючы канкрэтнай падзеі — выбарам у Вярхоўны Савет БССР 12-га склікання. Ён тады працаваў у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі імя Куйбышава на кафедры савецкага права.

Былы старшыня праўлення Нацбанка Станіслаў Багданкевіч сцвярджаў, што гэта менавіта ён параіў Віктару Ганчару вылучыцца кандыдатам. Як бы тое ні было, але калі ў студзені 1990-га ў «Наргасе» пачалі вырашаць, каго вылучыць кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР, для Віктара Ганчара пытання, удзельнічаць ці не, папросту не існавала. Паводле тагачаснага заканадаўства, асноўную масу кандыдатаў вылучалі працоўныя калектывы. Безумоўным фаварытам у Наргасе быў яго рэктар — Фёдар Баравік.

Інстытуцкаму працоўнаму калектыву ў колькасці больш за 350 чалавек належала вылучыць толькі аднаго з 16 чалавек. Праўда, шэсць з іх узялі самаадвод. Скандал разгарэўся ўжо ў першы дзень галасавання. Фёдар Баравік і ягоная каманда настойвалі на адкрытым галасаванні. Апаненты рэктара, і сам Віктар Ганчар, даказвалі, што прысутнасць рэктара псіхалагічна шкодна ўплывае на вынікі галасавання.

Калі пры адкрытым галасаванні Фёдар Баравік атрымаў 158 галасоў, Віктар Ганчар і яго прыхільнікі, у тым ліку і студэнты, пакінулі пасяджэнне, у выніку не хапіла кворуму. На другі дзень пасяджэння пры пасрэдніцтве інстытуцкага парткама сход прыняў рашэнне аб таемным галасаванні. Ганчар атрымаў 101 голас, Баравік — 89 галасоў, астатнія прэтэндэнты — 10 і меней галасоў. Фёдар Баравік дамогся таго, каб правесці галасаванне ў наступны, трэці дзень. Аднак на трэці дзень Ганчар атрымаў 165 галасоў — на 18 болей, чым яго канкурэнт.

Галоўную прычыну, па якой Віктар Ганчар атрымаў перамогу пры вылучэнні, можна даведацца з «Экономиста». У верасні 1989 года інстытуцкае выданне надрукавала анкету з пытаннем пра тое, што і па якіх якасцях павінен быць дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Праз месяц газета ў якасці прыкладу надрукавала адказ студэнта 4-га курса Дзмітрыя Драгуна, які назваў імя Віктара Ганчара. Студэнт адзначыў наступныя якасці выкладчыка: «Высокая идейность и нравственные качества, высочайший профессионализм и компетентность, глубокое юридическое образование, скурпулезная ответственность за порученное дело, умение работать с людьми». Больш за тое, Дзмітрый Драгун выказаў жаданне працаваць у перадвыбарчай групе Віктара Ганчара.

Малады дацэнт быў зарэгістраваны па сталічнай Васняцоўскай выбарчай акрузе №6. Акрамя яго балатаваліся яшчэ восем чалавек, у тым ліку першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Васіль Зуёнак.

Перамога Віктара Ганчара сапраўды была пераканаўчай. З 17 093 выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, за маладога юрыста прагаласавалі 9 862 чалавекі.

**Менавіта дзякуючы палымянай прамове Віктара Ганчара на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 5 лютага 1993 года дэпутаты зацвердзілі пункт, паводле якога прэзідэнт з'яўляўся кіраўніком выканаўчай улады**

Па словах Віктара, галоўным супернікам ён лічыў слесара Мікалая Ерхава, стаўку на якога афіцыйна зрабіў БНФ.

Наступны этап дзейнасці Віктара Ганчара звязаны з дэпутацтвам у Вярхоўным Савеце Беларусі 12-га склікання.

Ганчар трымаў слова ўжо ў першы дзень працы Вярхоўнага Савета 12-га склікання — 15 мая 1990 года. Дэпутат раскрытыкаваў старшыню Цэнтральнай



**Звычка павучаць узнікла ў Віктара Ганчара ўжо ў маладыя гады**

выбарчай камісіі (ЦВК) Міхаіла Лагіра за няздольнасць весці пасяджэнне сесіі, а таксама выказаўся па павестцы дня. Ганчар прапанаваў, напрыклад, абвяшчаць у другой палове дня павестку наступнага дня пасяджэння. Дэпутат Валянцін Голубеў прапанаваў прызначыць Віктара Ганчара памочнікам Міхаіла Лагіра па вядзенні пасяджэння сесіі, але такую ініцыятыву падтрымалі толькі 113 дэпутатаў з 286, што бралі ўдзел у галасаванні. Кандыдатура Віктара Ганчара была прапанавана ў склад Мандатнай камісіі, якая прызнавала паўнамоцтвы абраных дэпутатаў. Аднак парламентарый адмовіўся, матывуючы гэта тым, што жадае працаваць у іншай камісіі.

Калегі Віктара Ганчара былі ўпэўнены, што ён будзе працаваць у камісіі па заканадаўстве і, магчыма, узначаліць яе. Аднак ён зняў сваю кандыдатуру (дэпутат Дзмітрый Булахаў назваў гэта «пазёрствам»). Больш таго, некалькі месяцаў Ганчар не ўваходзіў у склад якой-небудзь пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета. І толькі 19 кастрычніка 1990 года стаў чальцом камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе, якой кіраваў Генадзь Карпенка.

Віктар Ганчар настолькі актыўны выступаў ля мікрафона, што дэпутат Васіль Чэпік аднойчы прапанаваў назваць гэты самы мікрафон імем Ганчара. Віктар парыраваў, што дэпутату якраз і трэба выступаць як мага больш, каб «не превратиться в парламентского трутня».

У Вярхоўным Савеце Ганчар заўсёды на першае месца ставіў юрыдычную логіку, законнасць і дасканаласць, лічачы, што гэта дазволіць пазбавіцца шматлікіх праблемаў. Гэта дазваляла салідарызавацца яму з палітычнымі апанентамі, напрыклад, з апазіцыяй БНФ. Так, у ліпені 1990-га Ганчар выказаўся за тое, каб Беларускі народны фронт атрымаў афіцыйную рэгістрацыю. У лютым 1991 года Віктар Ганчар разам з апазіцыяй падтрымаў заяву групы дэпутатаў, якая асуджала пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб правядзенні рэферэндуму ў БССР па пытанні захавання СССР як абноўленай федэрацыі.

На першым этапе парламенцкай дзейнасці Ганчар быў апантаны ідэяй новай Канстытуцыі. 22 чэрвеня 1990 года пры абмеркаванні складу Канстытуцыйнай камісіі дэпутат Уладзімір Станкевіч прапанаваў Віктара Ганчара на пасаду старшыні камісіі, аднак большасць дэпутатаў і сам Віктар згадзіліся на тое, каб камісію ўзначаліў старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дзямянцей.

Тым не менш Ганчар узначаліў працоўную групу ў складзе Канстытуцыйнай камісіі. У дакументах гэта група фігуруе пад №2, альбо як альтэрнатыўная група. Асноўную групу №1 узначаліў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Шаладонаў.

Віктар Ганчар імкнуўся фарсіраваць канстытуцыйны працэс і надаць яму першасную вагу. У архіве Канстытуцыйнай камісіі захаваліся пісьмовыя запыты Віктара Ганчара на адрас Мікалая Дзямянцея з патрабаваннямі належным чынам забяспечыць працу Канстытуцыйнай камісіі, надаць ёй больш паўнамоцтваў і падвысіць юрыдычны статус.

Праз Канстытуцыю погляды Віктара Ганчара пэўным чынам эвалюцыянавалі. Калі спачатку ён быў прыхільнікам парламенцкай рэспублікі (у загалоўку праекта Асноўнага Закона, падрыхтаванага групай №2 у кастрычніку 1991-га, адсутнічаў інстытут прэзідэнцтва), то паступова ім авалодала ідэя «моцнага» прэзідэнта.

Менавіта дзякуючы палымянай прамове Віктара Ганчара на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 5 лютага 1993 года пры абмеркаванні праекта пастановы аб новай Канстытуцыі дэпутаты зацвердзілі пункт, паводле якога прэзідэнт з'яўляўся кіраўніком выканаўчай улады.

Але да гэтага часу Віктар Ганчар ужо адышоў ад актыўнай дзейнасці ў Канстытуцыйнай камісіі. Яшчэ з вясны 1991-га ён пачаў працаваць намеснікам старшыні выканкама Маладзечанскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Старшынёй тады быў абраны Генадзь Карпенка, які ў інтэрв'ю «Народнай газеце» ў маі 1991-га даў наступную характарыстыку Ганчару: «Его четкость, пунктуальность, реакция — качества, вплоне сопрягаемые с практической работой. Он усидчив, целеустремлен, умеет выделить в текучке главное. Менеджер, умеющий генерировать идеи и реализовывать их».

Дзякуючы намаганням Карпенкі і Ганчара Маладзечна зрабіў магутны рывок наперад. Шырокае будаўніцтва, развіццё прадпрымальніцтва і прыватызацыя, музычны конкурс маладых выканаўцаў — гэтыя далёка не поўныя дасягненні Маладзечна далі падставу тагачаснаму карэспандэнту «Народнай газеты» Паўлу Якубовічу назваць яго «горадам Сонца».

18 верасня 1991 года Ганчар аддзячыць Карпенку тым, што прапануе яго кандыдатуру на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета.

Ганчар адным з першых пачаў патрабаваць адстаўкі старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. Дзякуючы ў тым ліку і Ганчару 1 ліпеня 1993-га ў Вярхоўным Савеце была арганізавана працэдура даверу Станіславу Шушкевічу, супраць якога выказалася ажно 166 дэпутатаў.

Калі 26 студзеня 1994 года большасцю дэпутацкіх галасоў Станіслаў Шушкевіч быў адкліканы са сваёй пасады, Віктар Ганчар сам выказаў жаданне ўзначаліць Вярхоўны Савет. Фармальна ягоную кандыдатуру вылучыў Лукашэнка: «Поддерживая серьёзность того, что происходит в этом зале, по-государственному подходя к этому вопросу, я предлагаю выдвинуть в качестве кандидата на пост председателя Верховного Совета молодого, толкового человека — Гончара».

Вылучэнне Ганчара было першай публічнай спробай генерацыі маладых палітыкаў захапіць уладу. У кароткім уступным слове Віктар прапанаваў у красавіку 1994 года правесці прэзідэнцкія выбары, а ў верасні — парламенцкія. Магчыма, ён не разлічваў на перамогу, але яго параза была аглушальнай. За Ганчара прагаласавалі ўсяго 24 дэпутаты, супраць — 233. Параза Ганчара азначала, што ў «маладых» дэпутатаў няма ніякай перспектывы ў парламенце.

**Працяг будзе**

Беларусь
# Эканамічная

Выпуск №6
(лістапад)

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by











**Хакатон — форум, дзе спецыялісты з розных галін разам працуюць над рашэннем якой-небудзь праблемы. Груба кажучы, зачыняюцца ў памяшканні на суткі-двое і там працуюць над ідэяй**

# Ідэі валяюцца пад нагамі

Вольга ХВОІН

**Вызначэнняў паняцця «стартап» вельмі шмат. Мы не будзем спрачацца і шукаць сваё. Папросту паспрабуем разабрацца, ці ёсць у Беларусі месца для бізнес-ініцыятывы.**

У пачатку 2016 года стрэліў створаны беларусамі дадатак для мабільных прылад MSQRD. Пра паспяховы стартап пісалі ўсе медыя. Інфармацыя пра паспяховыя ідэі рэгулярна з'яўляецца ў інфармацыйнай прасторы, школы стартапаў з'явіліся па ўсёй Беларусі.

Пра тое, як нараджаюцца паспяховыя ідэі і дзе шукаць спонсараў для сваіх бізнес-задумак, распавёў кіраўнік стартапаў Бізнес-клуба «Імагуру» Яўген Пугач.

«Калі тры гады таму мы адчыняліся, то слова «стартап» сур'ёзна не ўспрымалася. Маўляў, малалеткі прыходзяць патусіць і папрасіць грошай. Цяпер, калі з'явіліся гучныя паспяховыя справы, да стартапаў пачалі ставіцца інакш, — гаворыць Яўген Пугач. — Першы хакатон мы ладзілі з літоўцамі ў Мінску ў 2014 годзе. Тады ж нарадзілася кампанія TracDuck, якая паспяхова працуе і цяпер. Яе заснавальнікі — два беларусы і адзін літовец».

Хакатон — форум, дзе збіраюцца спецыялісты з розных галін і разам працуюць над рашэннем якой-небудзь праблемы. Напрыклад, у пятніцу фарміруецца 15–20 каманд са сваімі ідэямі. Груба кажучы, зачыняюцца ў памяшканні на суткі-двое і там працуюць над ідэяй. Нехта гэта робіць дзеля фана, а нехта распрацоўвае ідэі, якія потым выстрэльваюць. Прыкладна 2–3 праекты па выніку хакатона пачынаюць дзейнічаць.

Баяцца, што ты агучыш ідэю на хакатоне, а яе скрадуць, не варта.

«Ідэі нічога не каштуюць. Тут яны проста пад нагамі валяюцца. Я вам распавяду нешта, але не факт, што вы зможаце гэта зрабіць. Мы прачынаемся і кожны дзень маем ідэі, але што з гэтага рэалізуецца? На хакатоне людзі мабілізаваліся і сфармулявалі ўсё, а на рэалізацыю ўжо не хапае сілаў, бо праца, сям'я, занятасць... — гаворыць Яўген. — Адзін з заснавальнікаў MSQRD Яўген Неўгель удзельнічаў ва ўсіх нашых хакатонах. Можна сказаць, што ён планамерна ішоў да выніку».

Увогуле, шукаць аднадумцаў і новыя ідэі схільныя маладыя людзі. Тыя, каму за 40 гадоў, на падобныя мерапрыемствы прыходзяць мала.

«Ёсць, канешне, адзінкі, яны і ўдзельнічаюць, і прапануюць свае ідэі, але, шчыра кажучы, адстаюць. Чаму бізнесы прабуюць? Немагчыма гадамі жыць адным падыходам, цяпер усё змяняецца вельмі хутка», — гаворыць кіраўнік галіны стартапаў Бізнес-клуба «Імагуру».

Хакатоны цяпер такія папулярныя, што кампаніі замаўляюць іх для сваіх супрацоўнікаў. Тут і элементы пабудовы каманднага духу, і распрацоўка новых праектаў для кампаніі.

Але мала мець ідэю, і нават яе рэалізаваць на практыцы. Каб стаць глабальным, патрэбныя немалыя выдаткі на прапрацоўшчыкаў, міжнародны маркетынг. Вось тут і спрыяюць інвестары, якія дапамагаюць з матэрыяльнай часткай праекта.

«Звычайна людзі даюць грошы за нейкі адсотак у справе 5–10–20... Дамаўляюцца, што на нейкім этапе, калі кампанія пачне працаваць, не трэба прадаць. Або дамаўляюцца, што праз некалькі гадоў долі будуць выкупляць. Для бізнесоўцаў — гэта спосаб укласці грошы на больш выгодных умовах, чым пакласці на дэпазіт у банку. Але былі выпадкі, калі аўтары ідэй абураліся, што інвестар просіць 49% у бізнесе. Гаварылі, што пайду я лепш у банк, бо інвестар хоча забраць справу. Але паўстае пытанне: хто дасць студэнту вялікі крэдыт?»




Па словах Яўгена, многія працуюць над сваім праектам вечарамі, а днём на звычайнай працы зарабляюць на жыццё. У ЗША стартапамі займаюцца людзі, якім ужо за 40 гадоў — з досведам, ведамі, грашыма. У Беларусі стартапы ўсё ж справа маладзейшых людзей.

Раней у Беларусі існавала ГА «Супольнасць бізнес-анёлаў і венчурных інвестараў «БАВІН», вядомы цікаўнасцю да стартапаў сузаснавальнік групы кампаній «Сармат» Аляксандр Кныровіч, заснавальнік і саўладальнік беларускага інтэрнэт-рэсурсу TUT.BY Юрый Зісер, іншыя самастойныя інвестары.

Гэтай восенню пачаў працу венчурны фонд «Haxus», які будзе інвеставаць на ранняй стадыі развіцця ў стартапы, якія працуюць у галіне штучнага інтэлекту, дапоўненай і віртуальнай рэальнасці. Кампанія «Зубр Капітал» запусціла ў Беларусі фонд прамых інвестыцый «Zubr Capital Fund I». Фонд мае намер рабіць інвестыцыі ў развіццё прыватных беларускіх кампаній з высокім экспартным патэнцыялам. У сферы інтарэсаў ZCFI — інфармацыйныя тэхналогіі, вытворчасць тавараў народнага спажывання, раздробны гандаль.

Цяпер папулярны такі кірунак, як фінтэх-стартапы — праекты, звязаныя з фінансавай і банкаўскай сферай, сістэмай плацяжоў. Напрыклад, беларусы спрабуюць рэалізаваць праект GraiMe, які прапаноўвае сістэму безнаяўных плацяжоў вулічным музыкам.

У пачатку лістапада ў «Імагуру» праводзілі хакатон па тэме разумных тэхналогій, ідэй для горада і побыту гараджан Imaguru Smart Cities. Гэты хакатон падтрымалі такія буйныя кампаніі, як Velcom, Coca-Cola, EPAM. Ідэі прапаноўвалі самыя розныя: ад безбар'ернага асяродку да кантролю ў рэальным часе колькасці зялёных насаджэнняў у горадзе.

IT-праекты, канешне, найбольш прывабныя, бо патрабуюць мінімальна матэрыяльных рэсурсаў. Іншая справа, калі трэба пабудаваць цэх, каб запусціць нейкую вытворчасць.

«Да нас прыходзяць людзі не толькі з Мінска, — гаворыць Яўген Пугач. — За месяц праз мерапрыемствы бізнес-клуба праходзяць некалькі тысяч чалавек. Гэта без уліку тых, хто карыстаецца паслугамі каворкінгу. Калі мы пачыналі, то ў гэта мала хто верыў. Цяпер жа тэмы стартапаў, бізнес-школ, каворкінгу на слыху. Той жа каворкінг — гэта эфектыўна, зручна, танна. Дома чалавек дзічэе. А тут усе кантактуюць паміж сабою, можна смела падыйсці і распытаць чалавека, чым ён займаецца, пачуць параду. У нас ёсць і выпадкі, калі офіс для калектыву здымаюць у іншым месцы, а заснавальнік кампаніі прыходзіць працаваць сюды. Тут многа мерапрыемстваў праходзіць, і можна нават краем вуха многа цікавага пачуць».

Па словах Яўгена, на кожны хакатон прыязджае хлопец з Пінска, прывозіць сваіх аднагрупнікаў. Яны ўвесь час спрабуюць розныя ідэі, не атрымалася — бяруць іншую. Зрэшты, так робіць любы прадпрымальнік — увесь час шукае новае.



Так выглядае адзін з ужо гатовых праектаў — будынак загараднага комплексу «Шышкі» (Мінская вобласць)

# Экадамы:

## для тых, хто гатовы пераадолець стэрэатыпы

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Праект «3Е» пачаўся як стартап у 2012 годзе, сёння ён знаходзіцца ў фазе актыўнага развіцця. Аўтары праекту пацвердзілі навізну прадукту патэнтамі на карысныя мадэлі, вынаходніцтвы і прыярытэтам на краіны ЕС. Кампанія ТАА «Дом 3Е» мае вытворчыя магутнасці па выпуску аднаго домакамплекту на месяц.**

Стваральнікі домабудаўнічай сістэмы «Экакуб», спраектаванай у рамках аўтарскай канцэпцыі трох Е: Ecology, Energy, Economy (3Е), авіяканструктар Уладзімір Крупскі, цеплафізік Андрэй Хаўратовіч і інжынер-прачніст Аляксандр Осіка. Як яны самі пра сябе кажуць, «прадпрымальнікі па жыццёваму вопыту, вынаходнікі і наватары па душы».

Досвед уласнага індывідуальнага будаўніцтва падштурхнуў іх заняцца распрацоўкай домабудаўнічай сістэмы, зразумелай і даступнай ва ўсіх сэнсах індывідуальнаму забудоўшчыку. У распрацоўку, з аднаго боку, яны прыўнеслі рашэнні абаронных тэхналогій, сучасны тэхнікі і ўласныя «ноу-хау». З іншага — сістэма ўвабрала ў сябе 200-гадовы вопыт выкарыстання саломы ў якасці будаўнічага і ўцяпляльнага матэрыялу і 20-гадовы вопыт будаўніцтва дамоў з саломы ў навейшай Беларусі.

Галоўны канструктар домабудаўнічай сістэмы «Экакуб» Уладзімір Крупскі распавядае, ці можна з саломы пабудаваць надзейны дом, ці лёгка пераадольваць людскія стэрэатыпы і чаму пакупнікоў саламяных дамоў у Беларусі пакуль не шмат.

Кожную восень па сканчэнні жніва на палях застаюцца ляжаць акуратныя жоўтыя кулі саломы: дзеці скачуць на іх як на батутах, дзяўчаты робяць рамантычныя «сэлфі», фермеры выкарыстоўваюць для пасцілкі жывёлам, а распрацоўшчыкі будаўнічай сістэмы «Экакуб» выкарыстоўваюць салому ў сваіх канструкцыях.

— Называць нашы дамы «саламянымі» — не зусім правільна. Насамрэч, салома выкарыстоўваецца толькі ў якасці ўцяпляльніка, што змешчаны ў драўляны каркас, які ў сваю чаргу пакрыты фібралітавымі (сумесь драўняных габлюшак і цэментнага вяжучага) плітамі. Так атрымліваецца цэласная будаўнічая адзінка — «экакубік», — падкрэслівае Уладзімір Крупскі, пакуль мы едзем на машыне за пару дзясяткаў кіламетраў ад Мінска глядзець на будаўніцтва чаргoвага экадома.



Стваральнікі праекту: авіяканструктар Уладзімір Крупскі, цеплафізік Андрэй Хаўратовіч і інжынер-прачніст Аляксандр Осіка.

По дарозе Уладзімір распавядае, што ідэя будаваць дамы з саломы паўстала, калі ён рэканструяваў свой прыватны дом з бетону, пенапласту, газасілікатных блокаў і зразумеў мінусы гэтага будаўнічага матэрыялу.

— На той час у Беларусі ўжо выкарыстоўвалася папулярная ў Еўропе тэхналогія ўцяплення дамоў саломай, але гэта быў класічны спосаб — вялікі драўляны каркас забівалі цюкамі, пасля абмазвалі глінай. Гэтая тэхналогія ніяк не прыжывалася, бо было шмат хібаў — напрыклад, дамы прадувала, гэта ніяк нельга было назваць індустрыяльнай тэхналогіяй. Трэба было быць адначасова і цесляром, і сталяром, і наогул вельмі дасведчаным чалавекам. Мае партнёры — Андрэй Хаўратовіч і Аляксандр Осіка, падтрымалі ідэю індустрыялізацыі саломабудаўніцтва, мы вырашылі выправіць недахопы двухвекавой тэхналогіі і прыдумалі такі вось «экакубік». Цяпер гэтыя блокі проста скручваюць шрубавёртам паводле інструкцыі — для гэтай працы нават неабавязкова наймаць рабочых.

**Адзін «экакубік» важыць усяго 15 кг — а значыць, падняць яго можа любы будаўнік самастойна. Скласці дом можа любы чалавек, які валодае шрубавёртам**

Першыя чатыры «экакубікі» мы зрабілі ў 2012 годзе, праз год ужо былі збудаваныя жылы дом і гасцініца ў Шышках (Мінская вобласць). Цяпер па ліцэнзіі кубы робіць жодзінскае прадпрыемства «Ліга майстроў». Дарэчы, «экакубікі» запатэнтаваныя і як уласна будаўнічы элемент, і як будаўнічая канструкцыя.

Распрацоўшчыкі «Экакуба» называюць свае праекты «дамамі 3Е» — Ecology, Energy, Economy (Экалогія, Энергія, Эканомія).

— У такіх дамах свабодна дыхаецца, $CO_2$ выводзіцца аўтаматычна па прыродных законах праз сцены, без усялякай штучнай вентыляцыі, можна нават не праветрываць, — Уладзімір натхнёна тлумачыць экалагічны чыннік праекта. — Недарма палова нашых замоўцаў — гэта лекары. Акрамя таго, атрымліваецца зялёная цыклічная эканоміка: адходы сельскагаспадарчай дзейнасці — салома — зноў пускаецца ў справу.

Большасць нашых прагматычных суайчыннікаў мусіць прывабіць эканамічны аспект — збудаваць двухпавярховы экадом на 200 метраў "пад ключ" абыдзецца прыкладна ў 37 тысяч долараў. Знізіць цану можна за кошт самастойнага будаўніцтва дома з кубоў паводле інструкцыі — яна распрацоўваецца так, што варыянт правільнай зборкі дома толькі адзін і памыліцца немагчыма, інакш будынак проста не атрымаецца сабраць.

А калі сродкі абмежаваныя, а часу хапае, можна скончыць тыднёвую школу пры «Экакубе» і навучыцца рабіць «экакубікі» самастойна — распрацоўшчыкі абяцаюць, што так можна эканоміць каля 70 працэнтаў ад кошту домакамплекту, аднак спатрэбіцца майстэрня, дзе можна будзе збіраць кубы.

Уладзімір Крупскі гаворыць, што такі дом значна танней за прывычныя нам дамы і ў абслугоўванні:

— Цяпер часта будуюць так, што пасля даводзіцца дадаткова ўцяпляць дамы — гэта лішнія траты. У праектах 3Е такога быць не можа, бо ўсё пралічана, шырыня куба (таўшчыня сценкі) — паўметра. Аццяпляць

такі дом можна за $3–5 у месяц (у перыяд ацяпляльных сезонаў) — а гэта вельмі мала ў параўнанні з тымі ж газасілікатнымі дамамі, асабліва калі плата за ЖКГ увесь час расце.

Ледзь прабіраючыся праз бруд і лужыны — асфальтам у большасці катэджных пасёлкаў пад Мінскам і не патыхае — машына пад'язджае да будучага аднапавярховага экадома. Што ж, месца будаўніцтва выглядае акуратна — сям-там толькі валяецца салома, самі кубы складзеныя пад навесам ля будоўлі. Працуюць два работнікі, асноўны інструмент — шрубавёрт, якім пры дапамозе фанерных рэек змацоўваюць кубы між сабой. Будаўнічая тэхніка, кошт арэнды якой звычайна складае каля 200 долараў за дзень працы, тут непатрэбная. Адзін з работнікаў ідзе да навеса, бярэ па «экакубіку» ў руку і без асаблівага напружвання вяртаецца да дома.

— Кубы важаць па 15 кілаграмаў, таму з фізічнага пункту гледжання пабудаваць такі дом — няцяжка, — распавядае Уладзімір Крупскі. — Падмурак зроблены па тэхналогіі паляў ЦІСЭ — слупочкі ставяцца за дзень, патрэбна ўсяго два кубаметры бетону. На гэтым участку пакуль няма камунікацый, але гэта не праблема — іх у любы момант можна будзе правесці ў дом праз ніз. Абмежаванняў па планіроўцы таксама няма ніякіх. На палі кладзецца драўляны ростверк, контур якога напаўняецца саломай. Перакрыцці падлогі запаўняюцца саломай пасля сканчэння будаўніцтва даху, каб яна не адсырэла.

Дарэчы, расповеды пра тое, што дом можа згніць, што яго здзьме ці згрызуць мышы — любімыя міфы беларускіх спажыўцоў. За чатыры гады працы фірмы Уладзімір ужо стаміўся тлумачыць людзям, што іх дамы адрозніваюцца ад хаткі Ніф-Ніфа з усімі любімай казкі. Не будзем засяроджвацца на тэхналагічных акалічнасцях будаўніцтва (пра іх можна пачытаць у адмысловай рубрыцы на сайце кампаніі), проста прывядзем словы распрацоўшчыкаў, што гэтыя перасцярогі — лухта.

Але калі без жартаў, то стэрэатыпы наконт дамоў з саломы,



Перад пачаткамі будаўнічых прац рабочыя праходзяць адмысловы інструктаж



Уладзімір Крупскі — адзін з распрацоўшчыкаў домабудаўнічай сістэмы «Экакуб», галоўны канструктар праекта

**«Экакубік» уяўляе з сябе драўляны каркас, запоўнены ўцяпляльнікам — саломай. Вонкавая і ўнутраная паверхні куба пакрытыя адмысловымі фібралітавымі плітамі, а між каркасам і плітамі месціцца гідра- і ветраабарончая мембрана**

якія трывала заселі ў галовах патэнцыйных пакупнікоў, — гэта асноўная прычына, чаму пры ўсіх плюсах і эканамічных выгодах экадома колькасць ужо гатовых дамоў пакуль што не дацягвае і да дзесяці.

— Мала таго, што трэба перабароць сваё стэрэатыпнае мысленне, трэба быць гатовым не звяртаць увагі на тое, што скажуць іншыя, — часта такіх энтузіястаў не разумее нават іх уласная сям'я. Ды ў нас саміх былі такія стэрэатыпы, калі мы пачыналі праектаваць гэтую сістэму. Вы вось паспрабуйце прыйсці дадому і сказаць — маўляў, даведалася пра такія тэхналогіі, вырашыла пабудаваць дом за свае грошы, спакойна жыць, не кланяючыся банкам. Добра, калі хатнія не пакруцяць ля скроні. Вам усё прыпомняць: і мышэй, і трох парсючкоў, і агонь, і «згніе», і «людзі смяяцца будуць», — з горыччу гаворыць Уладзімір Крупскі. — Я чытаю каментары пад артыкуламі пра нашы праекты — дык спачатку было па некалькі соцень каментароў пра тое, што такія дамы развальяцца праз месяц, а нас трэба адправіць у дом вар'ятаў. Праз год, калі дамы выстаялі зіму і добра паказалі сябе на практыцы, каментатары ўжо змякчыліся, аднак людзі ўсё адно аддаюць перавагу традыцыйнаму матэрыялу — брусу ці газасілікатным блокам, нягледзячы на тое, што мы робім даследаванні, замеры, які пацвярджаюць нашы довады, а не проста страсаем паветра словамі пра экалогію і эканомію.

Акрамя стэрэатыпаў, разгарнуцца напоўніцу інаватарам не дае сама сучасная сфера будаўніцтва, лічыць канструктар.

— Вам прапануюць рабіць стандартныя дамы-тэрмасы, бо пра вас жа пасля трэба клапаціцца. Вам можна прадаваць рэкуператары за тысячы долараў, вам можна аказваць сэрвіс абсталявання, вам можна бясконца ўцяпляць дамы, можна прадаваць дарагія сістэмы ацяплення. На вас жа можна добра зарабіць. А як зарабляць, калі дом з мінімальным узроўнем энергаспажывання і не мае патрэбы ва ўсім гэтым дадатковым абсталяванні? Чыноўнікі нам не дапамагаюць, але і не замінаюць — займаюць нейтралітэт. Некаторыя з іх па сакрэце кажуць, што самі хочуць замовіць сабе такія дамы. Аднак выйсці на іншы ўзровень — напрыклад, збудаваць завод для масавай вытворчасці кубоў — у нас пакуль што немагчыма. Найперш таму, што гэта нявыгадна існуючым прадпрыемствам. Што, яны перастануць выпускаць бетонныя блокі і стануць рабіць кубы з саломы, якія будуць у сто разоў танней? Ім для гэтага, атрымліваецца, трэба звольніць 90% працаўнікоў? Для гэтага павінна ўсталявацца другая эканоміка — зялёная. А пакуль што вось — асфальт, нафта, бетон…

Ці ёсць на рынку гэтак званых «саламяных» дамоў канкурэнцыя, ці «Экакуб» — першапраходнікі? Уладзімір Крупскі гаворыць, што яны некалькі гадоў штучна спрабуюць стварыць канкурэнцыю, каб «не ў адзіночку прабіваць гэты мур галавой». Аднак нягледзячы на тое, што ў краіне хапае энтузіястаў і архітэктараў, якім блізкія ідэі экадамоў, паўнавартаснай вытворчасці ніхто з іх пакуль не арганізаваў.

— Па сутнасці, мы разглядаем у якасці канкурэнтаў тых, хто правільна робіць дамы па такой жа канцэпцыі — экалагічныя пара- і газапранікняльныя танныя і добра ўцепленыя. Таму што можна невялічкі пласт саломы пакласці — дом будзе экалагічным, але халодным. Вось нядаўна на рынак прыйшла кампанія (мы сутыкаліся і кантактавалі на выставах), якая вырабляе панелі з саломай, аднак нам не вельмі імпануе іх праект, бо яны запячатваюць салому ў паранепранікняльныя панелі, але яна там паступова псуецца. Наогул, канкурэнцыі мы ніяк не баімся, бо калі спажыўцы нас зразумеюць — гэтага рынку хопіць усім. Іншая справа, што на гэтым рынку правіць тое, што правіць ва ўсім свеце, — эксцэнтрычнасць, шоў. Цяпер можна лёгка і хутка раскруціць сыры прадукт, стварыць шум — і цябе імгненна купяць. Але гэта не тое, чаго мы дамагаемся. Ёсць лёгкія шляхі зарабляць бізнесам, мы ж займаемся інавацыяй. А інавацыя — гэта тая рэч, якая на першы час не патрэбна нікому.

Тым не менш, кажа Уладзімір, паступова цікавасць да такіх дамоў прачынаецца, людзі пачынаюць задумвацца пра сваё здароўе, пра месца, дзе яны праводзяць палову, калі не большасць часу. Аднак відавочна, што з такой малой колькасцю замоваў цяжка зрабіць прыбытковы праект. Уладзімір Крупскі гэта не аспрэчвае:

— Ёсць наш ліцэнзійны вытворца ў Жодзіна — паступіла замова на домакамплект, ён зрабіў і прадаў. Ёсць будаўнікі, якія працуюць па дамове, яны выканалі працу — атрымалі за яе грошы. Яны працуюць на прыбытак. А ёсць распрацоўшчыкі — гэта мы, якія ўклалі туды столькі грошай, што іх не акупіць яшчэ і дзесятак дамоў. У папярэднія гады было шмат эксперыментаў, шмат выпрабаванняў — мы ў гэта ўклалі свае грошы, на практыцы давялі тэхналогію да розуму. Калі з гэтага пункту гледжання разглядаць — канешне, гэта цяпер не прыбыткова. Прыбытковай для нас можа быць толькі перспектыва, калі мы знойдзем інвестыцыі.

А інвестыцыі «Экакуб» актыўна шукае — і, верагодна, небеспаспяхова. Па словах Уладзіміра Крупскага, у Еўропе зацікавіліся іх распрацоўкай, у прыватнасці, той мадыфікацыяй «экакубіка», якая прызначана для масавай аўтаматызаванай вытворчасці. — Такія кубы злучаюцца ў сценку без шрубаў. Новая тэхналогія дазваляе вырабляць вялікія аб'ёмы элементаў, якіх хопіць для зборкі дзясяткаў, соцень дамоў у месяц. На дадзены момант гэтая распрацоўка яшчэ тэсціруецца, а ў наступным годзе «Экакуб» плануе зладзіць яе прэзентацыю.



# Startup-рух: не дзякуючы, а насуперак

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**У часы СССР дзеці марылі стаць касманаўтамі. Апошнімі гадамі ў трэндзе новы напрамак. Сёння прагрэсіўная моладзь марыць пра ўласны стартап.**

Аднак стартап — гэта зусім не бізнес, які прыносіць даходы тут і цяпер. Гэта сімбіёз арыгінальнай ідэі і каманды выканаўцаў, здольны ў перспектыве ператворыцца ў нешта маштабнае і камерцыйна прывабнае.

Відавочна, што большасць стартапаў апрыёры асуджаныя на няўдачу. Чаму ж яны прыцягваюць у Беларусі ўсё новых і новых людзей?



## Адкуль узяць грошы?

Нізкія выдаткі на распрацоўку інтэрнэт- і мабільных прылад дазваляюць заснавальнікам стартапаў самастойна фінансаваць праекты на пачатковай стадыі. Таму ў Беларусі добра развітыя IT-стартапы на продаж. Заснавальнікі такіх стартапаў і іх першапачатковыя інвестары застаюцца вельмі задаволеныя, калі ім атрымліваецца прадаць свае праекты на ранняй стадыі. Звычайна пакупнікамі становяцца больш буйныя кампаніі, якія часта робяць гэта не толькі дзеля самога бізнесу, але і дзеля прыцягнення таленавітых людзей, якія працуюць у стартапе. Таму ў Беларусі развіццё стартапаў можна разглядаць і як частку сістэмы «ўцечкі мазгоў».

Развіццё стартапаў надзвычай важнае і для дзяржавы. Дастаткова сказаць, што стартапы коштам звыш 1 мільярда долараў на сённяшні дзень ёсць ужо ў такіх краінах, як Чэхія, Люксембург і нават Нігерыя. У Беларусі такой капіталізацыяй могуць пахваліцца толькі лічаныя кампаніі, якія спецыялізуюцца на здабычы і перапрацоўцы сыравінных рэсурсаў.

Мы маем поспехі ў рэалізацыі некаторых беларускіх IT-праектаў. Але больш складаная сітуацыя ў галіне тэхналагічных стартапаў. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова разгледзець дынаміку змены колькасці патэнтаў, зарэгістраваных беларускімі заяўнікамі ў Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці.

Для параўнання адзначым, што адна толькі кітайская Huawei Technologies у 2015 годзе зарэгістравала праз Сусветную арганізацыю інтэлектуальнай уласнасці 3898 патэнтавых заявак.

Сёння большасць беларускіх стартапаў уяўляюць спробу скапіяваць вопыт развітых краін і рэалізаваць яго ў межах Беларусі. Імкненне стварыць беларускую версію Amazon, Starbucks або McDonald's з'яўляецца даволі натуральным. Але гэтага недастаткова, паколькі Беларусі неабходна ўзнавіць і іншыя не менш важныя складнікі экасістэмы стартапаў — фонды венчурнага капіталу, бізнес-інкубатары і бізнес-акселератары. Практыка паказвае, што развіццё інфраструктуры далёка не заўсёды прыносіць плён, і на тое ёсць мноства прычын.

У Еўропе ці Расіі ёсць магчымасць атрымаць фінансаванне стартапа ад дзяржаўных і калядзяржаўных дабрачынных акселератараў. У Беларусі, на жаль, такіх фондаў няма. Дзяржаўная падтрымка стартап-праектаў абмяжоўваецца стварэннем тэхнапаркаў і правядзеннем рэспубліканскага конкурсу інавацыйных праектаў.

## Ці патрэбныя тэхнапаркі?

Беларускія тэхнапаркі будуюцца паводле еўрапейскай мадэлі як камерцыйныя арганізацыі, асноўная функцыя якіх — прадастаўленне плошчаў на льготных умовах інавацыйна-актыўным арганізацыям, а таксама аказанне ім комплексу паслуг па развіцці інавацыйнага бізнесу.

Аднак беларускія тэхнапаркі маюць істотныя адрозненні ад еўрапейскіх аналагаў. Адно з адрозненняў палягае ў тым, што заснавальнікамі дзеючых беларускіх тэхнапаркаў выступаюць мясцовыя органы ўлады. Пры гэтым дзяржава, з'яўляючыся заснавальнікам тэхнапарку, тым не менш, не гарантуе рэзідэнтам доступу да цэнтралізаванага фінансавання, абмяжоўваючыся толькі падатковымі прэферэнцыямі.

Карысць такіх тэхнапаркаў для стартапаў вельмі сумнеўная па той прычыне, што льготы ўяўляюць цікавасць для бізнесу, які ўжо адбыўся. Для пачаткоўцаў рэгістрацыя бізнесу дзеля прыналежнасці да тэхнапарку ў беларускіх падатковых рэаліях толькі створыць дадатковыя складанасці.

Выбар еўрапейскай мадэлі тэхнапарку ў якасці арыенціру сам па сабе не з'яўляецца бясспрэчным, паколькі еўрапейскія інавацыйныя цэнтры па тэмпах развіцця значна саступаюць амерыканскім і азіяцкім.

Вельмі паказальны прыклад амерыканскай Крамянёвай даліны, якая са сваёй асаблівай прадпрымальніцкай культурай, простымі правіламі адкрыцця і вядзення бізнесу дазваляла з мінімальнымі транзакцыйнымі выдаткамі камерцыялізаваць перспектыўныя ідэі і даводзіць іх да серыйнай вытворчасці. Урад ЗША не ставіў спецыяльнай задачы стварыць Крамянёвую даліну, яна толькі выконвала сваю звычайную ролю: фінансавала найбольш перспектыўныя навуковыя даследаванні, за кошт дзяржзаказу (у першую чаргу ваеннага) стварала попыт на высокатэхналагічную прадукцыю і спрыяла фармаванню спрыяльнага бізнес-асяроддзя. У выніку ў ЗША налічваецца 96 стартапаў з капіталізацыяй больш за 1 мільярд долараў.

У апошнія гады на ролю аднаго з лідараў у развіцці стартапаў выйшаў Кітай. Падабенства беларускай мадэлі развіцця тэхнапаркаў з Кітаем заключаецца ў высокай ступені дзяржаўнага кантролю. Аднак, у адрозненне ад Беларусі, Кітай павялічвае выдаткі на адукацыю і навуку, стварае і прыцягвае да працы ў тэхналагічных кластарах сусветных лідараў, каб пераймаць іх веды і фармаваць крытычную масу прафесійных кадраў і ідэй. Гэта дазволіла Кітаю ў 2015 годзе давесці капіталізацыю 19 стартапаў да 1 мільярда долараў.




**Рэгістрацыя патэнтаў на інтэлектуальную ўласнасць нацыянальнымі заяўнікамі ў Рэспубліцы Беларусь за 2010–2015 гг.** Крыніца: Белстат

## Ці трэба конкурсы?

У Беларусі штогод праходзіць рэспубліканскі конкурс інавацыйных праектаў. Конкурс праводзіць Дзяржаўны камітэт па навуцы і тэхналогіях пры ўдзеле Міністэрства адукацыі, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі». Конкурс мае адкрыты характар, у ім могуць прымаць удзел як юрыдычныя, так і фізічныя асобы, што дае магчымасць стартаперам атрымаць невялікае фінансаванне свайго праекту.

Памер грашовага ўзнагароджання ў 2016 годзе складае: за першае месца — 60 тарыфных ставак першага разраду (1788 BYN); за другое — 40 тарыфных ставак (1192 BYN); за трэцяе — 20 тарыфных ставак (596 BYN).

Сярод намінантаў савет конкурсу адбірае праекты для далейшай камерцыялізацыі, што дае права на атрыманне фінансавання ў памеры 400 тарыфных ставак.

З аднаго боку, можа здацца, што гэта нядрэнны шанец. Аднак не ўсё так адназначна.

Па-першае, стартаперам трэба быць гатовым да таго, што дэталі праекта стануць вядомыя нявызначанаму колу асоб. А сярод іх цалкам могуць апынуцца і тыя, хто ў стане ажыццявіць ідэю раней канкурсанта.

Па-другое, па ўмовах конкурсу саветам разглядаюцца толькі інавацыйныя праекты з дэталёва прапрацаванай стратэгіяй камерцыялізацыі і якія адпавядаюць прыярытэтным напрамкам навукова-тэхнічнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь. Дадзеная ўмова адсейвае абсалютную большасць стартапаў яшчэ на этапе падачы заяўкі.

Таму нядзіўна, што сярод пераможцаў конкурсу за ўсю яго гісторыю не было ні аднаго праекта, які можна было б назваць стартапам.

## Няма фірмы — няма стартапа

Прадстаўнікі дзяржорганаў прад'яўляюць аднолькавыя патрабаванні да ўсіх зарэгістраваных арганізацый. Таму любая спроба ўбудавання стартапа ў беларускае прававое поле спалучаная з вялікімі цяжкасцямі. Для прадстаўніка падатковай інспекцыі довады аб тым, што выручка ў кампаніі чакаецца толькі праз некалькі гадоў, здадуцца зусім не пераканаўчымі. Да таго ж супрацоўнікі беларускіх арганізацый не могуць працаваць без заробку і выплаты адлічэнняў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

Аднак прымяненне прынцыпаў кіравання, дзейсных для кампаній, якія ўжо існуюць, для стартапаў з'яўляецца вялікай памылкай. Таму спробы пабудаваць бізнес-мадэль стартапа на стандартных прынцыпах вядзення бізнесу ў Беларусі, як правіла, вядуць да правалу.

Сёння ж у беларускай падатковай да стартапераў могуць узнікнуць прэтэнзіі нават у тым выпадку, калі стартапу не нададзены фармальны статус. Звязана гэта з дэкрэтам аб дармаедстве, пад які падпадаюць непрацуючыя грамадзяне працаздольнага ўзросту. Усё гэта сведчыць аб тым, што стартапы сёння знаходзяцца па-за беларускім прававым полі.

У выніку ў Беларусі склалася парадаксальная сітуацыя, калі колькасць стартапаў узрастае не дзякуючы, а насуперак палітыцы дзяржавы. А беларускія стваральнікі найбольш перспектыўных бізнес-праектаў вымушаныя разлічваць у асноўным на замежных інвестараў. Балазе, што на сённяшні дзень беларускія стартап-каманды могуць прэтэндаваць на атрыманне фінансавання сваіх праектаў з ЗША ці Еўропы, застаючыся пры гэтым у Беларусі.

# Любімы дэтэктыў немцаў

Алег НОВІКАЎ

**Германія ў нацыянальным маштабе адзначае выхад на экраны тысячнага эпізоду самага любімага дэтэктыўнага серыялу немцаў — «Tatort» («Месца злачынства»).**




Першы выпуск «Tatort» пад назвай «Taxi nach Leipzig» («Таксі ў Лейпцыг») пабачыў свет на канале ARD у 1970 годзе. Наўрад ці яго стваральнікі думалі, што закладаюць цагліну ў фундамент культавага твору. Лічыцца, што «Tatort» прыдумалі, паколькі каналу трэба было канкураваць з іншымі каналамі, якія ўжо мелі дэтэктыўныя серыялы. Аднак нечакана прадукт ARD апынуўся мегапапулярным. Ужо напрыканцы 1970-х гадоў колькасць гледачоў серыялу даходзіла да 25 мільёнаў. Сёння сярэдняя аўдыторыя дэтэктыву складае трошкі больш за 10 мільёнаў, і гэта значная лічба. Нямецкія культуролагі пагаджаюцца, што «Tatort» — гэта рытуал нядзельнага вечара. Цэлыя генерацыі немцаў прызвычаіліся да таго, што ў нядзелю глядзяць чарговую серыю пра паліцэйскіх.

Не выключана, што сакрэт поспеху — у структуры серыялу. Паколькі Германія — федэратыўная краіна, дзе шмат лакальных рэдакцый тэлевізіі, камусьці прыйшла ў галаву ідэя стварыць не аднаго, а серыю герояў з розных гарадоў дзяржавы. Здымацы іх прыгоды таксама даручылі мясцовым студыям. Яны робяць 3–4 серыі на год.

У выніку серыял атрымаў асаблівы каларыт, паколькі глядач знаёміцца са спецыфікай розных куткоў краіны, і нават з асаблівасцямі мясцовага крыміналітэту. Напрыклад, усе адзначаюць, што ў мюнхенскіх выпусках «Tatort» няшмат забіваюць з дапамогай зброі. Тут злачынцы, як правіла, выкарыстоўваюць атруту. Да таго ж, апісаны прынцып працы дазваляе здымаць эпізод некалькі месяцаў і, як следства, рабіць якасны прадукт. Дарэчы, сёння адзін выпуск серыі каштуе каля 1,2 мільёна еўра.

Пра папулярнасць «Tatort» сведчыць і шэраг кур'ёзаў. За гады існавання праекту аўтары атрымалі 600 тысяч лістоў і прапановамі — гэта рэкорд для любой праграмы на нямецкай тэлевізіі. «Tatort» настолькі спадабаўся ў нямецкамоўных краінах, што хутка на экране з'явіліся паліцэйскія з Люцэрна (Швейцарыя) і Вены (Аўстрыя). Не дзіўна, што пра ідэю інтэграцыі людзей з розных краін праз дэтэктыў пазней узгадалі ў Еўрасаюзе. Напрыканцы 1980-х гадоў на грошы Брусэля быў запушчаны серыял «Eurocops», дзе паказаны побыт і прыгоды паліцэйскіх з розных краін ЕС.

Асобна трэба сказаць пра культ серыялу. Ён дасягнуў такіх памераў, што яго фанатамі вядзецца нават статыстыка забітых у серыяле (за ўсю гісторыю дэтэктыву на экране фігуравала 2280 нябожчыкаў). Існуе конкурс на самыя хітрыя забойствы. Пакуль на першым месцы — эпізод, дзе злачынца забіваў праз пацалунак. Ён навучыўся ўжываць атрутныя арэхі і пасля праз сліну перадаваў атруту ахвярам.




> За ўсю гісторыю дэтэктыву на экране фігуравала 2280 нябожчыкаў

Грамада прыхільнікаў «Tatort» падзеленая таксама на прыхільнікаў таго ці іншага сышчыка або тандэма. Зараз лідзіруе тандэм дэтэктываў з Мюнстэра, якому сімпатызуе 31 працэнт гледачоў. Затое самым вялікім дэтэктывам у гісторыі серыялу лічыцца Хорст Шыманскі, якога ўвасобіў акцёр Гётц Георг. Шыманскі быў настолькі вядомы, што адна з фірмаў нават наладзіла выпуск плашчоў, падобных на той, у якім ён з'яўляўся на экране.

Высокія рэйтынгі серыялу спрыялі яго грамадскаму эфекту. Вельмі моцны скандал выбухнуў у 2007 годзе, калі выйшла серыя «Wem Ehre gebührt». У аснове яе сюжэта — раман бацькі і дачкі, якія належаць да мусульманскай секты алевітаў. Дэманстрацыя эпізоду выклікала шквал абурэння ў камуне: алевіты сабралі на мітынг пратэсту ў Кёльне каля 30 тысяч чалавек. У выніку стваральнікі серыялу выбачыліся перад вернікамі і паабяцалі больш той эпізод не дэманстраваць.

Дарэчы, не выключана, што сцэнарысты «Wem Ehre gebührt» спрабавалі паўтарыць фурор эпізоду «Reifezeugnis», які пабачыў свет у 1977 годзе. У «Reifezeugnis» сюжэт заснаваны на каханні настаўніка і школьніцы, ролю якой, дарэчы, выканала 15-гадовая Настасся Кінскі. Пра яе абдымкі і пацалункі з дарослым педагогам казала ўся Еўропа. У выніку той скандал стаў першым крокам акцёркі да сусветнай вядомасці. З алевітамі так не атрымалася. Дарэчы, акрамя алевітаў супраць пэўных выпускаў пратэставалі родныя эпілептыкаў, габрэйскія арганізацыі, дзіцячыя псіхіятры...

> **Серыял атрымаў асаблівы каларыт, бо глядач знаёміцца са спецыфікай розных куткоў краіны, і нават з асаблівасцямі мясцовага крыміналітэту. Напрыклад, у мюнхенскіх выпусках «Tatort» няшмат забіваюць з дапамогай зброі. Тут злачынцы выкарыстоўваюць атруту**

Асобна трэба сказаць пра тое, як серыял успрымаўся ў ГДР, дзе ў некаторых рэгіёнах можна было прымаць сігнал заходненямецкіх тэлеканалаў. Адразу пасля выхаду «Tatort» ва Усходняй Германіі быў створаны мясцовы аналаг — «Polizeiruf 110» («Тэлефон паліцыі 110») з той жа структурай — апавяданне пра прыгоды паліцэйскіх з розных куткоў краіны.

Паміж серыяламі разгарнулася нефармальная канкурэнцыя. Заходні прадукт быў больш дынамічным і эфектным, паколькі на Усходзе панавала ўстаноўка, што пры сацыялізме цяжкіх злачынстваў практычна няма. Як следства, сышчыкі з «Polizeiruf 110» былі падобныя на нашых «Знатакоў» — шукалі парушальнікаў працоўнай дысцыпліны, махінатараў, хуліганаў. З іншага боку, немагчымасць рабіць класічны дэтэктыў прымушала аўтараў «Тэлефону...» надаваць больш увагі драматургіі і псіхалагічнаму партрэту герояў.

Магчыма, дзякуючы гэтай якасці серыял пра тысячнікаў з Усходу не знік адразу пасля ліквідацыі ГДР, а пратрымаўся на экране да 1991 года. Пазней, да 1993-га, героі «Polizeiruf 110» былі ўпісаныя ў сюжэт агульнанямецкага «Tatort». Толькі ў 1993-м старыя акцёры зніклі. У цяперашнім «Tatort» працуюць тандэмы дэтэктываў з Лейпцыгу, Магдэбургу і Ростаку.

Менавіта ў Лейпцыгу адбываюцца падзеі ў тысячным выпуску «Tatort». Напэўна, гэта даніна першаму выпуску. Па сюжэце злачынца — таксіст з Лейпцыгу — бярэ ў закладнікі мясцовых дэтэктываў. Крытыкам эпізод спадабаўся, а значыць, «Tatort» будзе працягнуты.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Цяпер, калі Масква і Анкара знайшлі агульныя падыходы, апошняя імкнецца атрымаць карысць з гатоўнасці Мінска падыграць ёй, гуляючы ў «вялікую палітыку». Інтарэсы туркаў цалкам празрыстыя. У знешнепалітычным аспекце — выкарыстоўваць Мінск у сваёй гульні супраць Масквы. Ва ўнутрыпалітычным — замкнуць на сабе беларускіх мусульман, пераарыентаваўшы іх з расійскай Уфы на турэцкі Стамбул. Ну і адначасна выціснуць з Беларусі палітычных праціўнікаў Эрдагана.

**REGNUM (Расія)**

Ва Украіне сур'ёзна прапрацоўваюцца сцэнары ўварвання расійскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі. Такога павароту падзей па палітычных і эканамічных меркаваннях не хоча кіраўніцтва РБ. Аднак афіцыйны Мінск, які знаходзіцца ў шчыльнай залежнасці ад Крамля, будзе не ў стане доўга пярэчыць патрабаванням Масквы, калі такія паўстануць. Тым больш, што беларуская зямля і неба для агрэсіі супраць Украіны ўжо выкарыстоўваліся. (...) Эксперты лічаць, што кіраўніцтву Беларусі неабходна забяспечыць прызнанне нейтралітэту з боку замежных партнёраў, у першую чаргу Расіі. Гэта значыць, што нейтралітэт Беларусі павінен быць прымальным для Масквы. Фактычна, эксперты падымаюць праблему «фінляндызацыі Беларусі».

**«Апостраф» (Украіна)**

Жаданне Расіі забраць у краін Балтыі беларускі транзіт нясе прамую пагрозу Клайпедскаму порту, але, насуперак аптымізму расійскага кіраўніцтва, Беларусь не збіраецца сыходзіць з Літвы. Лукашэнка значна больш упэўнены ў літоўскіх партнёрах, чым у расійскіх. У партах краін Балтыі створана выдатная інфраструктура па перавозцы нафты з Беларусі. Беларусь не задавальняе і тое, што Расія, як гулец у покер, спрабуе выкарыстоўваць яе ў барацьбе супраць ЕС, краін Балтыі і Украіны. Менавіта таму Лукашэнка адмовіцца пераарыентаваць грузы на Расію.

**BALTNEWS (Літва)**

Адназначна можна сцвярджаць, што для Лукашэнкі і Захад, і Расія — патэнцыйныя пагрозы. Калі першы пакуль імкнецца пракрасціся ва ўнутрыпалітычнае жыццё рэспублікі толькі праз дзейнасць трэцяга сектара, то Расія наўпрост выкарыстоўвае інструменты шантажу і ціску. Досвед Украіны насцярожыў Лукашэнку і адносна магчымасці Расіі прымяніць сілавыя інструменты. На далучэнне Крыма ён адрэагаваў заявай, што «мы былі і ёсць суверэнная, незалежная дзяржава». І гэта зноў вынік палітыкі Расіі — відавочнае адлюстраванне страху перад тварам агрэсіўнай палітыкі Крамля, які ў сваёй непрадказальнасці перасягнуў нават Лукашэнку.

**Rusland (Расія)**

Беларусь застаецца самым анамальным палітычным рэжымам у Еўропе, перажыткам савецкай эпохі. Але ці зможа яна выжыць ва ўмовах сучаснага эканамічнага клімату? У краіне, дзе дэмакратычныя свабоды абмежаваныя, а ўсе найважнейшыя рашэнні прымаюцца аднаасобна кіраўніком дзяржавы, які нязменна знаходзіцца ва ўладзе ўжо 23-ці год запар — усе, хто імкнецца наладзіць кантакт з Захадам, сутыкаюцца з арміяй бюракратаў і кансерватыўных чыноўнікаў, чыёй галоўнай мэтай з'яўляецца не дапусціць, каб нейкія захады лібералізацыі эканомікі падарвалі ўладу існуючага палітычнага рэжыму.

**Forexpf.ru (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАНАДА. Чакаецца ўзбуйненне?

Пасля перамогі Трампа шмат хто з амерыканцаў задумаўся пра эміграцыю ў Канаду. Аднак ёсць і іншы варыянт. У некаторых штатах, дзе большасць выбаршчыкаў на прэзідэнцкіх выбарах 8 лістапада галасавалі за Хілары Клінтан, узнік рух за выхад са складу федэрацыі. Гаворка ідзе пра шэраг штатаў Паўночнага Усходу і тэрытарыяльныя адзінкі на беразе Ціхага акіяну. Аднак сепаратызмам у чыстым выглядзе гэты рух назваць нельга. Штаты, якія гіпатэтычна выйдуць са складу ЗША, на думку ініцыятараў руху, могуць далучыцца да Канады. Апошняя, у выпадку рэалізацыі такога сцэнару, будзе мець мяжу з Мексікай і ўключаць такія буйныя гарады, як Бостан і Нью-Ёрк. У Каліфорніі ўжо пачаўся збор подпісаў за рэформу. Праўда, ідэю стаць канадцамі шмат амерыканцаў — працаўнікаў Трампа не падтрымалі. На іх думку, сыход прагрэсіўных штатаўператворыць тэрыторыю, якая застанецца называцца ЗША, у цалкам аўтарытарную дзяржаву. Яны лічаць, што Трампа яшчэ можна не дапусціць у Белы дом праз пратэсты.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Дзень прэзідэнта

Таджыкі 16 лістапада ўпершыню святкавалі Дзень прэзідэнта — новую дату, якая з гэтага года будзе адзначацца ў краіне штогод. Свята было маштабным. На вуліцах сталіцы былі вывешаныя вялікія партрэты Эмамалі Рахмона і лозунгі «Наш прэзідэнт — наш Лідар». У гарадскіх парках адбыліся культурныя мерапрыемствы з удзелам музыкаў, артыстаў тэатраў, паэтаў і пісьменнікаў. Сярод іншага на канцэртах прагучалі самыя лепшыя песні і вершы пра лідара нацыі. У дашкольных установах прайшоў конкурс на лепшы малюнак на тэму «Прэзідэнт вачыма дзяцей». Не адсталі ад дзяцей і сілавікі: у мясцовых аддзяленнях МУС у гэты дзень зладзілі конкурс на лепшых чытальнікаў вершаў у гонар лідара нацыі. У прынцыпе, думаецца, цяперашні Дзень прэзідэнта — гэта толькі пачатак. 26 кастрычніка дэпутаты аднагалосна прагаласавалі за наданне Эмамалі Рахмону статусу заснавальніка незалежнага Таджыкістана. Паводле новага закона, на ўсіх урачыстых і святочных мерапрыемствах рэспубліканскага ўзроўню, на пасяджэннях урада і парламента краіны збудуюць спецыяльнае месца для лідара нацыі — незалежна ад таго, будзе ён прысутнічаць там ці не.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### РАСІЯ. Жырыноўскі стане Петраградскім?

Цікавую рэакцыю выклікала прапанова старшыні ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага перайменаваць Санкт-Пецярбург у Петраград. Для даведкі: Санкт-Пецярбург быў перайменаваны ў Петраград у 1914 годзе, у пачатку Першай сусветнай вайны на хвалі антыгерманскіх настрояў. У студзені 1924-га горад стаў Ленінградам. Гэтая назва захавалася да 1991 года, калі горад зноў стаў Санкт-Пецярбургам. Кіраўнік расійскіх ліберал-дэмакратаў лічыць, што існуючая назва цяжкая для вымаўлення. «Як вы скажаце — санкт-пецярбуржка? Зламаць мову і рот, скявіцу іншую трэба паставіць, каб назваць жыхара Пецярбурга — жанчыну», — растлумачыў ён. Ініцыятыву ў горадзе на Няве не зразумелі. Шмат хто, у тым ліку сярод вядомых гараджан, кажа, што ад слова «Жырыноўскі» таксама ломіць рот і скявіцу. Як выйсце, Уладзіміру Вольфавічу прапануюць узяць прозвішча «Петраградскі». Жарты жартамі, але некаторыя баяцца, што заявай кіраўніка ЛДПР справа не скончыцца. У Піцеры згадваюць прымаўку: «Што ў Пуціна ў галаве, то ў Жырыноўскага — на языку».

**Паводле расійскай прэсы**

### НІДЭРЛАНДЫ. Святы Мікалай не пройдзе!

У нідэрландскім Ратэрдаме левыя радыкалы паспрабавалі сарваць святочную цырымонію «Прыбыццё Святога Мікалая». Паводле традыцыі, у гэты дзень галандцы сустракаюць Святога Мікалая, які быццам бы прыехаў з Іспаніі, каб абвясціць пачатак калядных святаў. Рытуал сустрэчы Мікалая стагоддзямі нагадваў звычайнае свята, пакуль нехта не звярнуў увагу на фігуру «Чорнага Пітэра» ў атачэнні святога. «Чоны Пітэр» — чарнаскуры казачны персанаж, які дапамагае святому раздаваць падарункі дзецям. Тое, што ён выяўлены ў ролі прыслужніка беламу Мікалаю, у нашы часы разглядаецца некаторымі як сімвал расізму. На іх думку, Святы Мікалай можа раздаваць падарункі і без «Чорнага Пітэра». Прычым, праблема Пітэра актуальная не толькі ў Нідэрландах. У 2015 годзе камітэт па барацьбе з расізмам пры ААН заклікаў прыбраць Пітэра з калядных спектакляў. Як бачым, улады Ратэрдама не паслухаліся, і ў выніку былі вымушаныя мабілізаваць паліцыю супраць прыкладна 200 анархістаў, якія атакавалі святочнае дэфіле. Бойка скончылася масавымі арыштамі, аднак наўрад ці тэма «Чорнага Пітэра» так проста знікне з павесткі дня.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Трампаўскі ізаляцыянізм

Алег НОВІКАЎ

**На думку экспертаў, выбарчыя заявы Дональда Трампа па пытаннях знешняй палітыкі пасуюць дактрыне амерыканскага ізаляцыянізму. Але што сабой уяўляе сучасны амерыканскі ізаляцыянізм?**




Феномен сучаснага амерыканскага ізаляцыянізму даволі незвычайны, паколькі пасля Другой сусветнай вайны гэты накірунак у палітычных дэбатах практычна знік або значна маргіналізаваўся. Гэта трошкі дзіўна, калі ўзгадаць, што практычна да 1941 года большасць палітыкаў ЗША сцвярджалі, што неўмяшанне ў міжнародныя справы гарантуе краіне шанец застацца выспай бяспекі і росквіту. Так ці інакш, у часы супрацьстаяння Захаду з СССР у амерыканскім грамадстве паўстаў кансенсус адносна неабходнасці актыўнай пазіцыі Злучаных Штатаў у свеце. ЗША лічыліся фарпостам усёй заходняй дэмакратыі.

Крах СССР і Варшаўскага блоку не астудзіў аматараў актыўнай знешняй палітыкі, а наадварот, папоўніў іх арсенал новымі аргументамі. Паколькі камуністычны блок знік, ЗША, на думку шмат каго, павінны былі ператварыцца ў абсалютнага гаранта глабальнай бяспекі. Такая ўстаноўка асабліва не аспрэчвалася і самімі амерыканцамі — літаральна да сярэдзіны нулявых, калі стала відавочна, што ў Іраку і Афганістане амерыканская вайскова-палітычная місія не мела вынікаў. Наадварот, вайна там зацягнулася. Акрамя таго, стаў папулярны тэзіс пра тое, што замежныя аперацыі Дзядзькі Сэма правакуюць хвалі імігрантаў, якія атакуюць Злучаныя Штаты, імпартуючы тэрарызм.

Перад пачаткам прэзідэнцкай выбарчай кампаніі праз сірыйскае пытанне падобныя настроі сталі ў грамадстве мейнстрымам. Праект адпраўкі жаўнераў у Сірыю выклікаў шквал пратэстаў, якія большменш аформіліся ў наступнае патрабаванне да кандыдатаў: ЗША павінны ўжываць зброю за мяжой выключна ў выпадку пагрозы нацыянальным інтарэсам і даць іншым краінам права самім вырашаць свой лёс.

Адразу вырас інтарэс да тэзаў акадэмікаў і палітолагаў накшталт Стывена Уолта, якія лічылі памылковымі шэраг знешнепалітычных акцый ЗША ў XXI стагоддзі, у тым ліку пашырэнне блоку NATO на Усход. У сваіх публікацыях яны сцвярджалі, што Злучаныя Штаты і Захад не маюць ані кадравых, ані інтэлектуальных рэсурсаў, каб кантраляваць увесь свет. Працяг цяперашняй палітыкі прывядзе, на іх думку, да бессэнсоўных ахвяр і эканамічнага краху краіны. У якасці альтэрнатывы прапануецца стварэнне новага міжнароднага парадку. Роля Злучаных Штатаў у новай сістэме міжнародных адносін павінна выяўляцца ў падтрымцы міжнароднага балансу сіл і пагроз.

Сфармавалася ў ізаляцыяністаў і сваё палітычнае лобі ў выглядзе фракцыі рэспубліканцаў, дзе заўжды была невялікая групоўка крытыкаў актыўнай ролі МЗС. Найбольш яскравы яе персанаж — кангрэсмен Рон Пол, які асудзіў інтэрвенцыі NATO ў Афганістан і Ірак.

Праўда, у выніку на выбарах 2016-га кумірам ізаляцыяністаў стаў не Рон Пол, а Дональд Трамп. Менавіта Трамп здолеў аб'яднаць знешнепалітычнае пытанне з актуальнымі для кожнага эканамічнымі праблемамі. Фрустрацыя наконт знешняй палітыкі дапаўняецца расчараваннем у цяперашняй эканамічнай мадэлі, якая спрыяе выводу вытворчасці са Злучаных Штатаў за мяжу, павялічваючы тым чынам рост беспрацоўя. Адсюль — папулярнасць ідэі большай эканамічнай ізаляцыі ЗША, што, быццам бы, дапаможа

**Не выключана, што ў атачэнні Трампа будуць весці рэй не ізаляцыяністы, а ястрабы накшталт Джона Болтана — аднаго з ідэолагаў вайны ў Іраку**

рэіндустрыялізацыі, справакуе ўнутраны попыт і, адпаведна, вырашыць праблему беспрацоўя. Падобны рэцэпт і прапанаваў Трамп падчас кампаніі.

Сёння, пасля перамогі, ён мае магчымасць рэалізаваць праграму ізаляцыяністаў. Для гэтага спатрэбіцца зрабіць шэраг радыкальных крокаў. Той жа Уолт лічыць, што структурная перабудова знешняй палітыкі ЗША вымагае, сярод іншага, адмовы ад цяперашніх маштабаў падтрымкі Ізраіля, спрыянне разбудове Палесціны, пазбаўленне Саудаўскай Аравіі статусу стратэгічнага саюзніка Злучаных Штатаў. Што тычыцца Усходняй Еўропы, то Уолт раіць ператварыць Украіну ў нейтральную буферную дзяржаву і замарозіць крымскае пытанне.

Наколькі новы гаспадар Белага дому можа на практыцы рэалізаваць ізаляцыянісцкія дактрыны? Акрамя рашучасці, патрэбны кампраміс з заканадаўцамі, а стаўленне да асобы Трампа супярэчлівае нават сярод аднапартыйцаў. Шмат што залежыць ад персанальнага складу адміністрацыі. І тут не выключана, што ў атачэнні Трампа будуць весці рэй не ізаляцыяністы, а, наадварот, ястрабы накшталт Джона Болтана — аднаго з ідэолагаў вайны ў Іраку. І самае інтрыгуючае пытанне — а ці сапраўды патрэбны Трампу той ізаляцыянізм? Не выключана, што крытыка дыпламатыі Абамы спатрэбілася яму толькі для таго, каб стаць сваім у вачах электарату.

У сувязі з гэтым часопіс «Neesweek» прапануе разглядаць тры версіі магчымай дыпламатыі Трампа. Па першай версіі, новы прэзідэнт можа паспрабаваць ажыццявіць формулу ізаляцыяністаў — America First (Амерыка перш за ўсё). На выхадзе мы станем сведкамі паслаблення інтарэсу ЗША да сітуацыі на Блізкім Усходзе і пацяплення адносін з Пуціным. Тады Амерыку чакае серыя гандлёвых і тарыфных войнаў. Час ад часу для падтрымкі рэйтынгу Трамп будзе жорстка абмяжоўваць міграцыйныя квоты.

У выпадку другога варыянту, калі ў Белы дом прыйдзе той жа Болтан, Злучаныя Штаты захаваюць цяперашні нацягнуты фармат адносін з Расіяй, дакладна ўцягнуцца ў канфлікт з Кітаем за кантроль над акваторыяй Ціхага Акіяну. Аднак адкрытай канфрантацыі не будзе. Каб прадэманстраваць, хто ў доме гаспадар, Трамп можа пайсці на вайну з Паўночнай Карэяй.

«Newsweek» таксама не выключае яшчэ адну версію: Трамп увогуле не будзе цікавіцца замежнымі справамі і перакладзе гэты накірунак на бюракратаў, якія, у сваю чаргу, будуць намагацца асабліва не праяўляць ініцыятыву. І Белы дом працягне курс адміністрацыі Абамы.

# Усхваляваныя Балканы

Алег НОВІКАЎ

**На мінулым тыдні ліхаманіла практычна ўсе Балканскія краіны. З'явілася адчуванне, што на вачах рушыцца сістэма, якая паўстала пасля касаўскага канфлікту і больш-менш забяспечвала стабільнасць.**



Як прызнаўся па слядах нядаўніх выбараў у Злучаных Штатах дырэктар МЗС Албаніі Дзітмір Бушаці, «усе палітыкі спадзяваліся на перамогу Клінтан, бо яе палітыку можна было пралічыць. Пачуццё трывогі, небяспекі можа справакаваць на Балканах рост напружанасці».

Праўда, яшчэ перад 8 лістапада ў рэгіёне адбылася вельмі незвычайная падзея. У Чарнагорыі спецслужбы выкрылі спробу дзяржаўнага перавароту, за якой стаялі ў тым ліку грамадзяне Расійскай Федэрацыі. Па словах кіраўнікоў краіны, у дзень парламенцкіх выбараў 16 кастрычніка правакатары павінны былі адкрыць страляніну па натоўпе, а іншыя — павесці раз'юшаных людзей на штурм парламента. Мэта путчу — абвясціць прарасійскі рэжым і не пусціць Чарнагорыю ў NATO.

Цікава, што ў некаторых каментарах наконт чарнагорскіх падзей узгадалі беларускага гаранта. Аказваецца, Лукашэнка — толькі другі палітык у Еўропе па часе знаходжання ва ўладзе. Ён саступае Міла Джуканавічу, які кіруе Чарнагорыяй з 1991-га. Калі ўзгадаць, што сама Чарнагорыя — дробная краіна, сумнеўна, што за столькі кадэнцый Джуканавіч не вывучыў сваіх апанентаў і «праспаў» падрыхтоўку такой маштабнай змовы.

Калі путчыстаў не было, дык што гэта было? Пакуль зразумелага адказу няма, аднак большасць схіляецца да версіі пра медыя-правакацыю, якая павінна была паралізаваць дзейнасць мясцовай апазіцыі. Не так даўно яна арганізавала нешта падобнае на Майдан, паўтору якога ўлада наўрад ці жадала. Апазіцыя пасля публікацый пра спробу путчу сапраўды заклікала сваіх прыхільнікаў сядзець дома, а гісторыя пра пераварот хутка знікла з газетных старонак.

Аднак вернемся да фактару пад назвай «Трамп». Касавары, баснійцы і албанцы ўспрынялі перамогу Трампа вельмі насцярожана — з улікам наяўнасці ў фразеалогіі пераможцы вялікай порцыі ісламафобіі. Забабоны супраць мусульман, як баяцца некаторыя, увойдуць у палітычны лексікон і на старым кантыненце. Даходзіць да таго, што ў Сараева людзі арганізавалі пікет супраць Трампа. Затое разгубленасцю напоўніцу карыстаецца баснійская пратурэцкая Партыя дэмакратычнай акцыі. Калі ёй верыць, Эрдаган хоць заўтра гатовы ўзяць пад сваю апёку ўсіх балканскіх мусульман.

А вось у сербскіх нацыяналістаў на вуліцы свята. У Баньа-Луцы, сталіцы сербскай аўтаноміі ў Босніі, поспех кандыдата ад рэспубліканцаў успрымаюць як нябеснае пакаранне для сям'і Клінтан — як вядома, Югаславію бамбілі ў часы прэзідэнцтва Біла Клінтана. Тое, што Трамп паставіў пад пытанне нават сэнс існавання Паўночнаатлантычнага Альянсу, дазволіла фантанаваць самым смелым тэорыям. У сербскай аўтаноміі Босніі не хаваюць, што ў выпадку паслаблення прысутнасці NATO край выйдзе з баснійскай федэрацыі, каб увайсці ў склад Сербіі. Праўда, у Бялградзе ўрад намагаецца такія заявы не каментаваць.

Моцна занепакоеныя такога кшталту размовамі ў Заграбе. Харвацкі палітыкум не выключае, што кампраміс паміж Трампам і Пуціным можа натхніць сербскіх нацыяналістаў на рэванш за прайграную вайну 1990-х гадоў. Тут таксама з жахам глядзяць на аўстрыйскі палітычны працэс, дзе кандыдат ад адной з ультраправых партый мае шанец ужо ў снежні стаць прэзідэнтам. Лічыцца, што ён сімпатызуе сербам.

Узняўся настрой ад апошніх паведамленняў са Злучаных Штатаў і ў прасербскіх палітыкаў у Македоніі. Цяпер нельга выключаць больш жорсткай канфрантацыі па пытанні ўступлення краіны ў NATO. Кансультацыі наконт гэтага цягнуліся даўно, аднак зараз яны выйшлі на фінальны этап — дзякуючы Грэцыі, якая дала згоду на далучэнне македонцаў да Альянсу. Раней Афіны блакавалі іх сяброўства, паколькі лічаць, што брэнд «Македонія» належыць выключна грэкам. Аднак, як бачым, праз Трампа ўсё зноў падвісае.

Цяжка сказаць, наколькі перамога Трампа дапамагла кандыдату-сацыялісту Румену Радзеву выйграць другі тур выбараў прэзідэнта ў Балгарыі. За Радзева прагаласавалі 59,35% выбаршчыкаў, за яго апанента з лагеру еўрафілаў — 36,17%. Каментатары пішуць, што Трамп тут быў ні пры чым, паколькі балгары даўно пачалі стамляцца ад сітуацыі, калі прыгожыя лозунгі пра еўрапейскую інтэграцыю слаба канвертуюцца ў паляпшэнне ўзроўню жыцця простых людзей. На гэтым фоне перамогу Радзева, які крытыкаваў апанентаў, называючы іх стаўленікамі брусельскай бюракратыі, можна было прагназаваць. Іншая справа, наколькі Радзеў сапраўды будзе фліртаваць з Пуціным? Нават ва ўра-патрыятычных расійскіх медыя заклікаюць не называць Радзева «прарасійскім». Хаця б таму, што ён генерал ВПС краіны, якая ўваходзіць у NATO, і праходзіў адпаведнае навучанне ў ЗША.

Больш спадзеваў у Расіі на Ігара Дадона, які 13 лістапада стаў прэзідэнтам у Малдовы. Хаця прэзідэнт у Малдове — хутчэй сімвалічная фігура, а ўсім кіруе ўрад, некаторыя першыя заявы новай першай асобы дзяржавы выклікалі гучны рэзананс. Дастаткова ўзгадаць пра намер Дадона арганізаваць рэферэндум пра ўступленне краіны ў Мытны саюз. Хаця хапае і такіх палітолагаў, якія лічаць, што Дадон — крэатура мясцовага алігарха Плахатнюка, пад якім ходзіць уся ўрадавая вертыкаль. У малдоўскім выпадку лепш пачакаць першых канкрэтных крокаў ад Дадона, каб зразумець яго геапалітычны профіль.

І толькі ў адной балканскай краіне пануе радасць і весялосць. Гаворка, зразумела, пра Славенію, адкуль паходзіць Меланія Трамп, новая гаспадыня Белага дому. Славенцы шырока святкуюць прарыў суайчынніцы, не хаваючы, што чакаюць ад яе мужа-прэзідэнта крэдытаў і інвестыцый у славенскую гаспадарку. Праўда, як піша прэса, нават у такой святочнай атмасферы адчуваецца прысмак занепакоенасці за стабільнасць суседзяў. Калі ўспыхне Боснія, славенцам моцна адгукнецца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Кіт Элісан



Параза Хілары Клінтан не толькі паставіла пытанне наконт змены кіраўніцтва ў Дэмакратычнай партыі, аднак і аслабіла групоўку Хілары Клінтан. Гэтым адразу скарысталася фракцыя Берні Сандэрса, якая прапанавала на пасаду кіраўніка партыі афраамерыканца, кангрэсмена ад штату Мінесота Кіта Элісана. Па словах Сандэрса, з дапамогай Элісана партыя мае шанец рэабілітавацца на парламенцкіх выбарах 2018 года, каб стварыць глебу для вяртання ў Белы дом.

Самае пікантнае ў гэтай гісторыі — біяграфія Элісана. Кангрэсмен вырас у сям'і каталікоў, але ў 19 гадоў падчас вучобы ва ўніверсітэце перайшоў у іслам, каб пазней стаць першым мусульманінам, абраным у Палату прадстаўнікоў ЗША. Па яго словах, іслам можа «садзейнічаць сацыяльным пераменам у грамадстве». Усё б нічога, але кангрэсмен кантактаваў з групоўкай «Нацыя ісламу», якая выступае за стварэнне асобнай дзяржавы для мусульман-афраамерыканцаў. Лічыцца, што «Нацыя ісламу» патаемна фінансуецца з Ірану. Нарэшце, Элісан падтрымлівае кантакты і з левакамі. У 2006 годзе вылучэнне Элісана ў кангрэс падтрымала Камуністычная партыя ЗША.

Прыход Элісана ў вялікую палітыку яшчэ больш палярызуе амерыканскую эліту з улікам таго, што Трамп, наадварот, рэкрутуе ў сваю каманду адыёзных правых. Сапраўдны шок выклікала прызначэнне на пасаду стратэгічнага дарадчыка Стыва Бенана, вядомага праварадыкальнага публіцыста, аматара «Ку-клукс-клана». Застаецца дадаць, што Элісан прыняў прапанову Сандэрса і паабяцаў у бліжэйшы час абвясціць пра сваю кандыдатуру на пасаду старшыні Нацыянальнага камітэта Дэмпартыі.

### Нурсултан Назарбаеў



Хутка жыхары Казахстану змогуць насіць партрэт Елбасы з сабой. 15 лістапада Нацыянальны банк Казахстана прэзентаваў новую банкноту з выявай кіраўніка дзяржавы. Гэта новае слова ў гісторыі казахскіх нацыянальных грошай.

Нацыянальная валюта Казахстана была ўведзена ў 1993 годзе, а на купюрах з самага пачатку друкавалі выключна партрэты вядомых казахаў мінулага — накшталт асветніка Абая або легендарнага праваднра Абылай-хана. Цяпер правіла змянілі, змясціўшы на банкноце выяву сучаснага палітыка. Відавочна, паўстае пытанне: за якія заслугі? У Астане ўжо прыдумалі адказ. «Гісторыя незалежнасці непарыўнай лініяй звязаная з асобай кіраўніка дзяржавы. Таму Нацыянальны банк выпускае юбілейную банкноту, прысвечаную 25-годдзю незалежнасці Казахстана, якая адлюстроўвае ўнёсак кіраўніка ў развіццё краіны», — тлумачыць старшыня Нацбанка Данияр Акішаў. Акрамя таго, раптам высветлілася, што менавіта Назарбаеў вызначыў дызайн першых банкнот у 1993 годзе, калі адбывалася станаўленне нацыянальнай валюты Казахстана.

Навіны з Нацбанка выклікалі цікавыя каментары з боку простых грамадзян. Яны звяртаюць увагу, што «назарбаеўкі» з'явіліся роўна праз год пасля дэнамінацыі тэнге. Таксама шмат хто заўважыў, што новая банкнота знешне вельмі нагадвае кітайскія юані.

### Эмануэль Макрон



41-гадовы былы міністр эканомікі Францыі, лідар арганізацыі «d'En marche!» 16 лістапада канчаткова абвясціў пра свой намер удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, прызначаных на вясну наступнага года.

Хаця балаціроўка Макрона даўно чакалася, яна стала пэўнай сенсацыяй — з улікам апошніх навінаў з ЗША. Перамога Трампа ўнесла карэктывы ў ход кампаніі, якая, па сутнасці, ужо стартавала. У грамадстве відавочна ўзнік інтарэс да антысістэмных кандыдатаў, накшталт Марын Ле Пэн, якая лічыцца французскай версіяй Трампа. У гэтым плане выбары набываюць абсалютна новае вымярэнне.

Што тычыцца Макрона, ён яўна не падобны да папуліста або працаўніка істэблішменту. Наадварот, ён карыстаецца падтрымкай шэрад прадстаўнікоў сярэдняга класу, выступае за тое, каб стварыць новую дэмакратычную партыю цэнтру. Тое, што Макрон усё ж вырашыў балатавацца ў такой неспрыяльнай для дэмакратаў атмасферы, можа растлумачыць яго надзеяй стаць галоўным апанентам кандыдата-папуліста.

Сяргей ШАПРАН


Фота www.kp.by

# Зіновій Герт: «Дабро павінна быць ананімным»

**Я ўдзячны лёсу за шматлікія знаёмствы і сустрэчы, сярод якіх многія, нягледзячы на вялікую адлегласць у часе, прыгадваюцца дасюль. Адны з такіх незабыўных сустрэчаў — з Зіновіем Яфімавічам Гертам. Тым больш, што ўзгадаць вялікага акцёра — між іншым, ураджэнца Віцебскай губерні, — нагода ў гэтую восень надарылася нават падвойная: у верасні Зіновію Яфімавічу было б 100, у лістападзе — 20 гадоў з дня яго смерці...**

Маё знаёмства з Гертам было даволі кароткім — я толькі пачынаў займацца журналістыкай, і адны з першых маіх інтэрв'ю былі якраз з Зіновіем Яфімавічам: упершыню мы гутарылі ў верасні 1991 года, калі ён быў на гастролях у Мінску, і двойчы потым у Маскве. Вядома, некаторыя гістарычныя рэаліі, якія тады былі агульнавядомыя, сёння патрабуюць удакладнення. Вось, напрыклад, Герт кажа пра 21 жніўня 1991 года, «калі мы перамаглі гэтых няголднікаў»: гаворка ішла пра ГК ЧП, калі прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў быў незаконна адхілены ад улады, і ў краіне ледзь не здарыўся дзяржаўны пераварот...

Варта таксама сказаць, што Герт валодаў незвычайным пачуццём гумару. Таму калі, напрыклад, адказваючы на пытанне, як яму ўдаецца быць такім абаяльным, казаў: «Аба-аяльнаму? Ну, па-першае, я — высокі стройны бландын з блакітнымі вачыма. І я проста прыгожы. Фізічна прыгожы, разумееце? Гэта, вядома, не можа не прыцягнуць увагу дам. А, па-другое, я куру, я п'ю, я — усё! Увесь джэнтльменскі набор! І ўсе разумеюць: ён жыве няправільна. Значыць, у ім ёсць нешта цікавае», — не варта, вядома, прымаць гэта за чыстую манету: маўляў, Герт быў занадта высокай думкі пра сябе — усё гэта прамаўлялася з іроніяй у адносінах да самога сябе і без намёку на снабізм. Менавіта ў такім ракурсе і варта ўспрымаць адно з тых даўніх інтэрв'ю, у якім, па-мойму, шмат ад Герта. Ад таго Герта, з якім мне і пашчасціла быць знаёмым.

— ...Як пачынаўся мой шлях у мастацтве? Па адукацыі я слесар-электрык. Скончыў Фабрычна-завадское вучылішча, у якім быў ТРАМ — Тэатр рабочай моладзі. Мяне паклікалі ў ТРАМ, і я прыняў гэтае запрашэнне. У якасці кіраўнікоў туды прыйшлі двое дарослых людзей: Аляксей Мікалаевіч Арбузаў і Валянцін Мікалаевіч Плучак. Потым ужо была тэатральная студыя, сумесна напісаная п'еса «Горад на зары». І ўсё было выдатна, але пачалася вайна... Мы пайшлі на фронт. Мяне паранілі, і пра тэатральную ніву трэба было забыцца. Гэта было вельмі сумна. Але аднойчы ў шпіталі я ўбачыў выступ лялечнага тэатра. Я падумаў: там ёсць шырма, а за ёй не відаць, як ходзяць акцёры.


Фота аўтара

І пасля шпіталя я прыйшоў у лялечны тэатр да Абразцова. Тут я праслужыў трыццаць шэсць гадоў. У якасці канферансье выходзіў пяць тысяч разоў... М-да, гэта ашаламляльная лічба, з аднаго боку, а з іншага, магу запэўніць вас і публіку, што ніколі мне не было сумна іграць канферансье. Ніколі! Таму што кожны дзень знаходзілася нейкая новая рысачка, фразачка. Там была маса адсябяціны, свавольства, імправізацыі. Нешта замацоўвалася, штосьці сыходзіла ў сувязі з надзённасцю і з часам, які змяняўся...

***— І ніколі не было сумна іграць?***

— Не, гэтага я не магу сказаць. Заўсёды хацелася іграць! Гэта яшчэ ад таго, што ў мяне былі таксама кіно, радыё і тэлебачанне — я быў задзейнічаны досыць шчыльна. Я неяк вырваўся з-за шырмы. Але назаўжды шырму не пакідаў — гэта было святое! І кіназдымкі — заўсёды ў вольны ад спектакляў і рэпетыцый час. У тэатры ж і раўнавалі, і не адпускалі! Але я не займаўся справай, якая магла стаць аднастайнай. Да таго ж да кіно я ставіўся вельмі строга, таму што — магу вам сказаць гэта, бо цяпер надыходзіць час, калі трэба казаць праўду, але не заўсёды мы гэта рабілі раней, — ужо было імя, якое кожны дзень трэба падтрымліваць і апраўдваць. Апраўдваць нейкую прыхільнасць публікі, каб не засмучаць яе...

Калі я люблю чалавека, напрыклад, нейкага палітычнага дзеяча, мне бывае прыкра, калі ў яго здараюцца памылкі, прамашкі, але я яго апраўдваю, таму што я — неаб'ектыўны, небесстаронні чалавек. Аднак калі гэта доўжыцца і доўжыцца, я пачынаю яго разлюбліваць. І магу разлюбіць канчаткова! Я засмучаюся...

***— Зіновій Яфімавіч, а як вы паставіліся да жнівеньскіх падзей, калі Міхаіл Гарбачоў ледзь не быў адхілены ад улады?***

— Гэты няўдалы пераварот зноў надзвычай павярнуў мяне да Гарбачова, таму што ён апынуўся ў няшчасным становішчы, а ўсялякае няшчасце выклікае спачуванне. Тым не менш, я быў жудасна засмучаны тым, што яго першыя словы былі не «дзякуй хлопцы!», бо першыя яго словы павінны былі быць словамі падзякі! Падзякі людзям, якія паставілі сваё жыццё пад абсалютную пагрозу, і тым не менш усё-такі выручылі свайго прэзідэнта, як бы яны да яго ні ставіліся... Я не ўпэўнены, што Ельцын так ужо палюбіў Гарбачова пасля ўсяго таго, што той з ім зрабіў. Але Ельцын зразумеў: чалавек у няшчасці, і яго трэба ратаваць...

Ёсць простыя чалавечыя тлумачэнні кожнаму складанаму працэсу. І я — менавіта за такія тлумачэнні народу яшчэ і таму, што я — таксама народ, я — публіка. Я павінен ведаць праўду. Я павінен ведаць простыя рэчы. Дык вось, па-простаму я хацеў бы, каб Гарбачоў сказаў: «Дзякуй. Вы мяне выручылі. Я памыляўся. Я падабраў сабе вельмі дурную кампанію»...

Спадзяванняў жа на лепшае жыццё цяпер становіцца ўсё менш і менш. Культура стаіць на самым апошнім месцы! А гэта пагібельна для грамадства. Зараз такі час, што людзі маглі б змірыцца з адсутнасцю каўбасы, калі б былі закранутыя за жывое духоўным... Але трэба закрануць за жывое! А час ужо ўпушчаны. Гэтыя шэсць гадоў мы займаліся не тым...

***— А вы таксама былі на барыкадах?***

— Не, мяне не пусцілі. Я рваўся, але я не выстаяў бы там — у мяне ўжо і сэрца не тое, і ногі... Усё было жахліва — нібы жыццё канчаецца. І я думаў пра самагубства. Хоць я не маю на тое права: ад мяне залежыць даволі вялікая колькасць людзей. Не ў эканамічным сэнсе нават (хоць і гэта таксама прысутнічае), а ў душэўным.

***— У жніўні гэтым разам абышлося, але што яшчэ чакае Расію?***

— Сапраўды — «розумам Расію не зразумець», а з іншага боку, хопіць ужо — «таямнічая руская душа»! Глупства! Непарадак ва ўсім. Няма чалавека, якога нельга было б купіць. Няма!.. Хоць я ведаю нармальных рускіх людзей, якіх купіць проста немагчыма! Нічым! І няўжо Гарбачоў не разумеў, што перад ім Сахараў стаіць?! У якога было тры прэміі, і ён аддаў іх на будаўніцтва анкалагічнага цэнтра. Але Гарбачоў не мог зразумець гэта! Хоць сам, зарабіўшы велізарныя мільёны на выданні сваёй кніжкі, даў справаздачу перад народам: вось сюды пяцьдзясят мільёнаў, сюды і сюды. Да капейкі разлічыўся, як ён усё аддаў! І выдатна, што раздаў свае мільёны. Але добра было б, калі б я даведаўся пра гэта вакольнымі шляхамі, са шпіёнскіх крыніц. Гэта было б у дзесяць разоў каштоўней! Таму што гэта зноў жа клопат пра сябе...

Аднойчы адзін мой былы калега распавёў, як ён падарыў беднай замежнай перакладчыцы, якая вельмі хацела патрапіць у Маскву, тысячу лей. Я яму сказаў: «Па-мойму, вы зрабілі выдатную рэч. Адзінае, што дрэнна — вы мне пра гэта распавялі». Дабро павінна быць ананімным. Чалавек павінен рабіць дабро гэтак жа, як есць, як спіць. Рабіць дабро — эгаістычнае пачуццё: табе добра ад таго, што ты камусьці зрабіў добра.

***— Зіновій Яфімавіч, жыццё падаравала вам знаёмства са многімі выбітнымі людзьмі, прычым вядомасць — далёка не галоўнае. Мо распаведзяце пра кагосьці са сваіх блізкіх сяброў?***

— У мяне ёсць такі сябар — Уладзімір Іванавіч Зянкоў. У Валодзі і яго жонкі Эмачкі проста прыроджаны кодэкс гонару, прыстойнасці! Які звычайна ў нас крытэрый? — я б з ім пайшоў у разведку! А я б з Валодзем не пайшоў, таму што ён будзе мала думаць пра справу, а больш пра тое, каб мне было зручна ў гэтай разведцы! Ён усе свае душэўныя высілкі выдаткуе на мяне. І гэта пры тым, што ад мяне ніякім чынам не залежыць! Вядома, ён можа на мяне разлічваць — я разаб'юся, але зраблю! Аднак Валодзя ж не папросіць. І я не папрашу, але ён прадугадае мае патрэбы... Вядома, у старасці трэба мець такіх абаронцаў. Гэта дзіўны аплот у маім жыцці! Выдатныя людзі без адзінай плямкі.

***— Але за што мы цэнім сяброў?***

— Я думаю, гэта карысталюбна. Вельмі добрыя людзі пакідаюць непрыемны асадак у тваёй душы — мо таму, што ты такім не можаш быць. Заўсёды перад табой прадмет бачнай недаступнасці! Дый прафесія ў мяне такая, што натуральнасць — самая цяжкадасягальная грань маіх паводзін.

***— А шчасце, на вашу думку, у чым?***

— А калі змяніць пытанне: ці шчаслівы я? — не. Хоць гэта, вядома, гучыць нахабна і какетліва, але чыстая праўда. Я глыбока нешчаслівы, таму што я адзін ведаю прорву паміж тым, кім я лічуся, і тым, што ёсць на самай справе. І гэта мяне грызе, з'ядае, не дае заснуць. Хоць нібыта хто яшчэ адбыўся, як ні я?! Усё ў мяне ёсць: звані — любоў, прыманне публікі — паўсюднае! Чаго я ірвуся? На што яшчэ скарджуся?.. На вуліцы людзі кланяюцца. Самыя галоўныя канфлікты ў чарзе па гарэлку: я стаю, а мне прапануюць прайсці без чаргі. Але я не магу гэтак паступіць!.. Так, бываюць учынкі, за якія я выдатна да сябе стаўлюся. Але так, каб сябе палюбіць, я не пацягну. Я не пацягну на ўсенародную любоў да мяне. Вось гэта і робіць мяне глыбока няшчасным. Я разумею сваю недасканаласць. Хоць, увогуле, я нічога благога спецыяльна не раблю... Біяграфія нармальная. Вялікі дом. Аўтамабіль. І дача з зімовым домам у трыццаці хвілінах язды. Усё ёсць, але не ў гэтым справа. Бо нават тое, што вы прыехалі за інтэрв'ю — яшчэ адно сведчанне знешняга майго дабрабыту. І пярэчыць гэтаму нялёгка... Я лічуся кімсьці такім цудоўным, хоць зусім не цудоўны ні на справе, ні ў жыцці...

# Беларуская Жанна Д’арк

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Чатырох паручнікаў засушыла, генерала зрабіла трубадурам, увесь штаб другой дывізіі зачаравала, а цяпер артылерыйскага капітана, барона, гатуе сабе, галубочка, на мужа.**

100 гадоў таму, 13 лістапада 1806 года, нарадзілася Эмілія Плятэр — сімвал патрыятызму і самаахвярнасці ў імя Радзімы. Гэту жанчыну яшчэ называюць беларускай Жаннай д’Арк.

Быў сцюдзёны снежаньскі передсвяточны дзень. У невялічкім пакойчыку шляхецкай сядзібы на ложку памірала знясіленая дзяўчына, якой усяго месяц таму споўнілася 25 гадоў. Дажыць да Раства ёй не было наканавана.

Яна памерла ў асяродку малавядомых людзей, пад чужым прозвішчам, каб не патрапіць у рукі варожых уладаў. А ўжо ў наступным годзе яе імя зрабілася вядомым на ўсю Еўропу, дзякуючы рамантызаванаму вобразу з верша, напісанага ў 1832 годзе паэтам Адамам Міцкевічам — «Смерць палкоўніка». Ад рэчаіснасці ў ім быў толькі апошні радок: «То ліцвінка Эмілія Плятэр!». Так паўставала легенда пра беларускую Жанну д’Арк, якая ператварылася ў сімвал сапраўднай патрыёткі.

## Ні ў чым не адставаць ад хлопцаў

Эмілія Плятэр нарадзілася 13 лістапада 1806 года ў Вільні ў вядомай арыстакратычнай сям’і Ганны фон Моль і Францішка Ксаверыя Плятэра. Яе маці была высокаадукаванай асобай, якая намагалася выхаваць дачку ў лепшых традыцыях свайго часу. Але дзяцінства Эміліі не было шчаслівым: бацькі ўвесь час сварыліся, прычынаю чаго з’яўляўся разгульны лад жыцця бацькі.

Калі дзяўчынцы ішоў дзясяты год, яе маці пераехала да сваякоў на поўнач Віцебшчыны — у маёнтак Ліксна каля Дынабурга (цяпер — Даўгаўпілс). Характар выхавання дзяўчынкі радыкальна змяніўся, бо ў маёнтку цёткі Ізабелы Зыбэрэк-Плятэр не было ніводнай аднагодкі Эміліі. Яна апынулася сярод хлопцаў, у першую чаргу яе стрыечных братоў — 11-гадовага Людвіка і 9-гадовага Казіміра, вымушаная даказваць, што ні ў чым ім не саступае: ні ў фехтаванні, ні ў коннай яздзе, ні нават у паляванні.

Пазней у маёнтку Дусяты іншай цёткі, Апалінарыі, яна пасябравала са стрыечнымі братамі Уладзіславам і Цэзарыем.

Ужо ў ранніх дзяцінстве яна захапілася кнігамі, у прыватнасці гістарычнымі, з якіх даведалася пра Жанну д’Арк, на якую марыла быць падобнай. Да ліку яе любімых герояў таксама належалі Тадэвуш Касцюшка і Ласкарына Бубуліна (1771–1825) — гераіня грэчаскай рэвалюцыі 1821 года, якая прадала маёнтак, каб узброіць тры караблі і ўзначаліць іх у барацьбе з туркамі. Траплялі да Эміліі і творы філаматаў ды філарэтаў, сярод якіх вылучалася «Гражына» Адама Міцкевіча, галоўная гераіня якога павяла атрады ўласнага мужа супраць крыжакоў.


Эмілія Плятэр

## Збіральніца беларускага фальклору

Эмілія з дзяцінства захапілася беларускімі народнымі песнямі, якія збірала і апрацоўвала. Ураджэнец Віцебшчыны Максімільян Маркс (1816–1893), які ў 1866 годзе праходзіў па справе аб замаху Д.У. Каракозава на імператара Аляксандра II і быў сасланы на пажыццёвае пасяленне ў Сібір, узгадваў:

«Яна, бадай, не памылюся, першая з запалам, уласцівым чуламу і шляхетнаму сэрцу, аддалася душой беларускаму люду, добра бачыла яго біду і спачувала яму, намагаючыся як толькі было можна, палегчыць долю. Яна збірала і спявала беларускія народныя песні, штодня плаціла тым, хто ёй напяваў іх. Слухаючы гэтыя песні, сама спрабавала складаць нешта ім падобнае. На фартэпіяна яна ўмела вельмі выразна перадаць і зухаватасць, і тугу народных матываў, і нават тэмбр сапрана-жалейкі і баса-дудкі».

Збіраючы песні, яна і сама спрабавала пісаць вершы на беларускай мове, дасканала авалодала жанрам галашэнняў, у якіх падрабязна апісвалася пакутнае жыццё простага беларускага селяніна: «Спеў гэты жаласны, тужлівы, горкі, выкліканы сардэчным болем, імправізаваны з канкрэтнай нагоды, падобны на выццё, якое нельга перадаць». М. Маркс апісаў выпадак, калі сваім галашэннем Эмілія Плятэр прымусіла яго анямець да здзіўлення і давяла да слёз аднаго вясковага музыку: «Авой, авой, дзяцюк ты мой! Не на радасць, не на шчасце ты радзіўся...»

Эмілія захаплялася і беларускімі народнымі танцамі, асабліва «Лепятухай», марыла, што надыдзе час, калі тыя станцуь звычайнай часткаю салоннага жыцця арыстакратыі.

У 1824–1829 гадах дзяўчына актыўна падарожнічала па Беларусі, Літве і Інфлянтах, а ў 1829 годзе разам з маці выбралася ў Польшчу.

## «Афіцэрская змейка»

У гэты ж час руку і сэрца ёй прапанаваў заможны рускі інжынер, які будаваў умацаванні ў яе сваякоў у Краслаўі. Пазней, як пацверджанне створанай легенды, будуць пісаць, што Эмілія адмовіла «з патрыятычных перакананняў». А Вацлаў Гансёроўскі ўвогуле ў працяг ствараемай легенды ў 1910 годзе ў вусны аднаго з персанажаў аповесці «Эмілія Плятэр» укладзе наступныя словы: «Пані Эмілія Плятэр, дачка графа Плятэра, афіцэрская змейка! Чатырох паручнікаў засушыла, генерала, камандуючага крэпасцю, зрабіла трубадурам, увесь штаб другой дывізіі зачаравала, а цяпер артылерыйскага капітана, барона, гатуе сабе, галубочка, на мужа».

Насамрэч, адмова аднаму інжынеру была звязаная з тым, што Эмілія пакахала іншага чалавека (які, так сталася, таксама быў інжынерам), маладога капітана, барона Дальвінга. Усё ішло да шлюбу і да таго, што Эмілія Плятэр ператворыцца ў звычайную арыстакратку, якая запомніцца ў беларускай гісторыі хіба тым, што адна з першых, амаль нароўні са «славянскім патрыётам» Зарыянам Даленгам-Хадакоўскім і філаматам Янам Чачотам, захапілася вывучэннем беларускага фальклору.

Але гэтую лінію лёсу перакрэсліў 1830 год, калі Эмілія страціла маці, смерць якой цяжка перажывала, і стала сведкаю распачатага 29 лістапада з Варшавы паўстання на землях былой Рэчы Паспалітай.

Яна імкнулася далучыцца да барацьбы ўжо з самага яе пачатку. Але як жанчыну яе ігнаравалі, не дапускалі да ўдзелу. Таму Эмілія абстрыгла свае доўгія валасы і загадала пашыць сабе мужчынскае адзенне. У паўстанне яна ўступіла разам з сяброўкай — Марыяй Прушынскай. Гэта адбылося адразу пасля таго, як 25 сакавіка 1831 года партызанскі атрад Юліюша Гружэўскага выгнаў расійскае войска з Расіенаў, што стала сігналам да паўстання ў Літве і Беларусі.

Ужо 29 сакавіка разам з братам Цэзарыем Эмілія ў мястэчку Дусяты сабрала партызанскі атрад з 280 стралкоў, 60 коннікаў і некалькіх соцень касінераў, з якімі рушыла не куды-небудзь, а на адну з магутнейшых крэпасцей у рэгіёне — Дынабург. План Эміліі складаўся ў тым, каб па дарозе да Дынабурга сабраць добраахвотнікаў, у той час як у крэпасці іх будуць чакаць лаяльныя паўстанцам маладыя афіцэры і вучні школы, у якой вучыліся яе браты.

30 сакавіка паўстанцы разбілі расійскі атрад каля паштовай станцыі Дангелі, а 2 красавіка адбыўся бой з ахоўнай часткай генерала Шырмана каля Уцянаў, дзе атрад Эміліі Плятэр зноў святкаваў перамогу. 4 красавіка паўстанцы ўдарылі на адну з калон корпуса генерала Шырмана, якая рухалася ў раён канцэнтрацыі асноўных рускіх войск у Дынабургу і занялі мястэчка Езёрасы.

З-за колькаснай перавагі праціўніка стала зразумела, што атака на горад не будзе паспяховай. Да таго ж паўстанцы панеслі вялікія страты, таму Эмілія распусціла атрад. А з тымі, хто вырашыў змагацца да канца, 30 красавіка каля Панявежа далучылася да атрада вольных вількамірскіх стральцоў Караля Залускага, з якімі разам дайшла да Вількаміра. Тут Эмілія пазнаёмілася з новай прыяцелькай — Марыяй Рашановічаўнай, якая стала яе апошняй і неадлучнай сяброўкай.

Разам яны ўдзельнічалі ў бітвах пад Мейшаголай і Гарбіловам, дзе 5 чэрвеня генерал Дэзыдэры Хлапоўскі дараваў Эміліі ганаровае званне капітана 1-й роты 25-га палка лінейнай пяхоты. Адначасова генерал прапанаваў Плятэр вярнуцца да хаты, на што атрымаў катэгарычны адмоўны адказ.

Яе атрад 27–28 чэрвеня выпучыўся ў бітве пад Коўна, а сама Плятэр вызначылася нязвыклаю мужнасцю, абараняючы канвой забеспячэння паўстанцкай арміі. Рэарганізаваныя рэшткі 25-га палка, якія суправаджалі абоз для арміі Гелгуда, патрапілі ў засаду паў Шаўлямі і толькі цудам ураваліся ад поўнага знішчэння. У час бою Эмілія вызначылася мужнасцю і была ўратаваная маёрам Кекерніцкім, які аддаў ёй уласнага каня.

У ліпені стала зразумелым, што далейшы супраціў расійскім войскам не мае сэнсу, таму камандаванне паўстанцкіх сіл прыняло рашэнне перайсці ва Усходнюю Прусію і скласці зброю. На што Эмілія Плятэр заявіла: «Лепш памерці, чым скончыць такім прыніжэннем».

Эмілія вырашыла разам з Рашановічаўнай і братам Цэзарыем працягваць барацьбу, і таму накіраваліся да Варшавы. 10 дзён яны прабіраліся па лясах. Голад, недасыпанні, страх перад выкрыццём канчаткова падарвалі і без таго слабое здароўе Эміліі Плятэр. У выніку яна цяжка захварэла.

Яе схавалі ў маёнтку Абламовічаў у Юсцінаве Сейненскага павета, пад імем Коравінскай — настаўніцы шляхецкіх дзяцей. Але аднавіцца знясілены цяжкім паходным жыццём арганізм ужо не здолеў. 23 снежня 1831 года Эмілія Плятэр памерла і была пахаваная ў горадзе Капцёва.

## «Смерць палкоўніка»

Яе вобраз быў ідэалізаваны ў літаратуры і мастацтве. Вядомая літаграфія Стрэнчынскага, з якога на нас з цнатлівым спакоем пагладае прыгожая, стройная дзяўчына з прыемным тварам, валасы якой развіваюцца ад ветру. Гэтая выява стала выразам ідэала, сімвалам недасяжнай жаночай прыгажосці. У рэчаіснасці Эмілія выглядала інакш, аб чым сведчыў Ігнат Дамейка:

«Невысокая, бледная, не прыгажуня, але акруглага, прыемнага, сімпатычнага твару, з блакітнымі вачыма, добра складзеная, але не моцнай формы; была сур’ёзная, больш строгая, чым абаяльная ў паводзінах, мала размаўляла і адным поглядам быццам выклікала да сябе належныя адносіны».

Але найбольш да яе вобраза прыклаў руку паэт на сумежжы культур Адам Міцкевіч, які вершам «Смерць палкоўніка» стварыў неўміручы вобраз патрыёткі, кіраўніцы паўстанцаў, памерлай ад атрыманых ран у змаганні за лепшы лёс Бацькаўшчыны, імем якой названы адзін з відаў прыгожай кветкі — Клематыс Эмілія Плятэр:

*На палянцы зялёнай, між думных бароў,*
*Дзе пад клёнам хацінка старая,*
*Бы застыў у знямненні атрад ваяроў:*
*Іхні там камандзір паміраe.*

*Людзі з вёсак збіраюцца тут, ля варот.*
*Ён, палкоўнік, быў слаўны, няйначай,*
*Раз яму спагадае так просты народ,*
*Пра яго ўсё пытае ды плача.*

*Вось палкоўнік каня асядлаць загадаў*
*І прывесці бліжэй да парога.*
*Перад смерцю яшчэ раз хоць глянуць жадаў*
*Ён на друга свайго баявога.*

*Загадаў свой прынесці паходны мундзір,*
*Свой кінжал, зброю, пояс стралецкі.*
*Ён хацеў і з рыштункам сваім, камандзір,*
*Развітацца, як колісь Чарнецкі.*

*А калі ўжо ад хаты каня адвялі,*
*Ксёндз туды ўвайшоў з панам Богам.*
*Людзі з вёсак маліцца хутчэй пачалі,*
*Ціха ўкленчыўшы перад парогам.*

*Спалатнеўшы, паўстанцы стаялі ў дзвярах.*
*Нават воі Касцюшкі былыя,*
*Што прайшлі ўсе агні, агрубелі ў баях,*
*Слёз сваіх не хавалі, сівыя.*

*Раным-рана ў капліцы званіць пачалі.*
*Ды хаваць камандзіра жаўнеры*
*Не змаглі: наляцелі якраз маскалі...*
*У капліцы для ўсіх — насцеж дзверы.*

*Там ляжаў ён на лаве — ў спакоі чало.*
*У руках яго — крыж, збоч — нягнуткі*
*Нож-кінжал і ружжо, ва ўзгалоўі — сядло.*
*Люд дзівіўся: такі маладзюткі!*

*Ды чаму твар дзявочы ў байца? Два грудкі...*
*Хто ж мог знаць, што баёў завадатар*
*Быў... дзяўчынай! Была — слёз не трэба, жанкі —*
*То ліцвінка Эмілія Плятэр!*

**(Пераклад Кастуся Цвіркі)**







Праект паркавага будынку

# Аб чым распавядаюць лагерныя малюнкі рэпрэсаванага архітэктара?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Мікалая Максімца забралі ў 1937-м паводле даносу сакурсніка. Наступныя 10 гадоў ён правёў на поўначы Расіі.**

Мікалай Аляксандравіч нарадзіўся ў 1905 годзе ў Беластоку, які тады належаў да Гродзенскай губерні, у сям'і чыгуначніка. Падчас Першай сусветнай вайны сям'я была эвакуяваная ўглыб Расіі, адкуль вярнулася ў родныя мясціны ўжо пасля Грамадзянскай вайны. Сам жа Мікалай падаўся ў Ленінград, дзе ў 1936 годзе скончыў Інстытут інжынераў камунальнага будаўніцтва па спецыяльнасці «архітэктар».

Яго апошняе месца працы перад арыштам — архітэктар-праекціроўшчык у горадзе Калінін. Як распавядала пазней яго жонка, падставай для арышту стаў данос сакурсніка. Фармулёўка: «польскі шпіён»... Нагодай магло быць паходжанне ды кантакты са сваякамі ў Заходняй Беларусі, якія Мікалай нават у сталінскае ліхалецце не хацеў абрываць.

23 лістапада 1937 года Асобнай нарадай НКУС СССР Мікалай Максімец быў пакараны на 10 гадоў лагераў, частку з якіх яму давялося адбываць на поўначы — у Архангельскай вобласці. Там ён і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Яўстоліяй Папоўскай, якая перажыла найстрашнейшую зіму 1941–1942 гадоў у блакадным Ленінградзе.



Разам з сям'ёй, Гродна, 1950-я

Пасля зняцця блакады жанчыну эвакуявалі ў тыл, дзе прызначылі на гаспадарчыя працы ды ў хуткім часе за няўважлівасць далі тэрмін з фармулёўкай «сабатаж».

Мікалай Аляксандравіч не адрозніваўся вайсковай загартоўкай ды добрым здароўем, таму ад смерці яго ўратавалі... здольнасці ды адукацыя. У пэўны момант яго ўзялі ў лагерную кантору чарцёжнікам, што аўтаматычна вызваляла ад рабскай працы ў нялюдскіх умовах.

Мастацтва ды навыкі ў маляванні ратавалі Максімца не толькі фізічна, але, відаць, і духоўна. У сям'і захавалася цэлая калекцыя лагерных малюнкаў архітэктара: у асноўным партрэты іншых зняволеных ды суровыя паўночныя пейзажы. На жаль, толькі на адным партрэце ёсць подпіс: «Папоў П.Т.», іншыя змяшчаюць толькі дату.

У маі 1947 года пасля вызвалення Максімец разам з жонкай адправіліся ў Гродна, дзе жылі яго састарэлы бацька, брат ды сястра. Як былому вязню, прапіскі ў абласным цэнтры яму не далі — зарэгістравацца атрымалася адно ў Лідзе. Затое спецыяльнасць архітэктара аказалася запатрабаванай у разбураным вайной горадзе. Ленінградскі дыплом дапамог трапіць нават у Саюз архітэктараў БССР, а па праектах Максімца былі збудаваныя ды адноўленыя дзясяткі будынкаў у Гродне ды вобласці.



Лагерныя гады, аднак, не прайшлі дарэмна. Здароўе Мікалая Аляксандравіча было падарванае, таму пасля працяглай хваробы архітэктар і мастак памёр 15 красавіка 1956 года. Да сваёй поўнай рэабілітацыі, пастанова аб якой датуецца 9 жніўня 1956-га, ён не дажыў усяго тры месяцы. Фармулёўка цалкам звычайная для таго часу: «...за адсутнасцю складу злачынства».

Трагічны лёс напаткаў усю сям'ю. У 1970-я гады зусім у маладым узросце ад раку крыві памерла дачка Мікалая Аляксандравіча. У 1990-я гады перад смерцю Яўстолія Рыгораўна паспела перадаць малюнкі, фотаздымкі і дакументы свайго мужа блізкай сям'і, якая яе дагледала: раднейшых людзей ужо не было. Там архіў захоўваецца і па сённяшні дзень як рэліквія ды сумны напамін пра зламаны лёс яшчэ аднаго таленавітага ды энергічнага сына сваёй зямлі.

**Паважаныя чытачы!**

У №40 ад 21 кастрычніка па віне рэдакцыі ў матэрыяле Лявона Целеша «Пуста. Чарнобылем пахне сусвет» былі допушчаны прыкрыя памылкі. Няправільна названая вёска Пярэдзелка Старадубскага сельсавета Лоеўскага раёна, а таксама прозвішча яе ўладальнікаў Юдзіцкіх.

Прыносім шчырыя прабачэнні чытачам і жыхарам Лоеўшчыны.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова №1124

Падпісана да друку 18.11.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.